*Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі*

## СВЕТ

### МІРУ НЯМА

«...і на землі мір» звіняць калядныя песні. Нам гэтыя словы сталіся фармальнасцю. Але ёсць зямля, на якой праз 20 год не было дня, калі б быў мір. Ад 20-ці год не спыняецца тут вайна. Гэта **В'етнам.** Адно, цяперашняе пакаленне перажыло тут аж **тры вайны:** японскую акупацыю, супраць французскім каланізатарам і амерыканскім акупантам.

На Новы год, можа ў гэтую хвіліну, калі чытаеце «Ніву», у В'етнаме не страляюць, не падаюць бомбы на Ханой, не гараць ляпянкі вясковых хатаў, не выкідаецца з самалётаў в'етнамскіх патрыётаў-партызан. Аднак памятайце, што гэта ўсё не адбываецца толькі ў вызначаных гадзінах, што праз некалькі гадзін ці хвілін зноў пачнуцца баі, зноў пачнуць гінуць людзі.

Хаця «звязда міру» надалей свеціць — міру няма.

### СЕСІЯ НАДЗЕІ

Пасля амаль трохмесячнай працы закончылася XXI сесія Генеральнай Асамблеі ААН. Агульны яе баланс з'яўляецца пазітыўным. А вось важнейшыя разгледжаныя справы:

■ **Адхілена крызіс звязаны з пасадай генеральнага сакратара ААН.** Па просьбе большасці дэлегацый ААН У Тан зноў прыняў гэту функцыю.

■ **Змяніліся адносіны дзяржаў членаў ААН да Злучаных Штатаў.** На больш 100 дэлегацый, якія прыймалі ўдзел у XXI сесіі, толькі 9 падтрымала амерыканскую агрэсію ў В'етнаме.

■ Наложана **эканамічныя санкцыі** на расісцкі ўрад Радэзіі. Усе краіны — члены ААН забавязваюцца разарваць гандлёвыя суадносіны з гэтай краінай.

■ XXI сесія ААН **адабрала рэспубліцы Паўднёвай Афрыкі мандат над Паўднёва-заходняй Афрыкай.**

■ Пасля 19-цігадовай падрыхтоўкі XXI сесія ААН прыняла **Пакты Правоў Чалавека.** Гэта першы дакумент у гісторыі, які з'яўляецца свайго роду кадэксам правоў грамадзянскіх, палітычных, гаспадарчых, грамадскіх і культурных.

■ Сесія ААН прыняла **рэзалюцыю аб космасе.** Гаворыцца тут, што космас уключна з Месяцам і іншымі нябеснымі целамі не можа быць нічыёй уласнасцю.

### КАМУНІСТ — ЧЛЕН ЗАКАНАДАЎЧАГА СХОДУ

Сакратар арганізацыі Камуністычнай партыі Вялікабрытаніі на востраве Джэрсі Норман Ле Брок стаў першым камуністам, выбраным у заканадаўчы сход вострава.

### СЕЛЬСКІЯ ЭЛЕКТРЫЧНЫЯ ЛІНІІ

У 1967 годзе прадугледжваецца пабудаваць у СССР **256 тыс. кіламетраў** сельскіх электрычных ліній. Гэта дасць магчымасць павялічыць спажыванне электраэнергіі ў сельскай гаспадарцы да 28-мі мільярдаў кілават-гадзін, або на **15%. К канцу года будуць электрыфікаваны** практычна ўсе **саўгасы і калгасы** і амаль **90% дамоў калгаснікаў і работнікаў саўгаса.** А. К.

## БССР

### БЮДЖЭТ

Бюджэт Беларускай ССР на 1967 год складае суму 2.067.201 тысяч рублёў. Бюджэт Саюза ССР складае — 52.799.773 тысяч рублёў.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ

Усесаюзнае Міністэрства прыборабудавання, сродкаў аўтаматызацыі і сістэм кіравання сарганізавала канферэнцыю на Мінскім гадзіннікавым заводзе. На гэтай канферэнцыі абмеркавана праблемы ўводу і эфектыўнасці гаспадарчага разліку ва ўмовах новай сістэмы планавання і эканамічнага стымулявання, якая ўводзіцца ў СССР.

### ПЛЕНУМ

Адбыўся пленум Вярхоўнага суда Беларускай ССР. У час гэтага пленума звернута асаблівую ўвагу на справы бяспекі ў транспартным руху і адказнасці за яе.

### СЕРБСКІ

У Мінску выступаў Сербскі народны тэатр з Югаславіі. Яго галоўным рэжысёрам з'яўляецца Дзімітры Джуркавіч. Гэты тэатр наведаў ужо Польшчу і Украіну.

### «КАРЧАГІН»

Оперная студыя Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі рыхтуецца да пастаноўкі оперы «Павел Карчагін», якую напісаў вядомы беларускі кампазітар П. Падкавыраў.

### АНКЕТА

Цэнтральная беларуская газета «Звязда» аб'явіла анкету, у якой просіць чытачоў выказвацца наконт цікавасці друкаваных матэрыялаў, вонкавага выгляду газеты і т.д. Газета дапускае нават ананімныя адказы або толькі частковыя — хаця на адно або два пытанні. У сучасны момант наглядаецца тэндэнцыю да паляпшэння якасці газет і часопісаў.

### БЕЛАРУСІЯНА

У Львове адбыўся вечар, прысвечаны 75-годдзю з дня нараджэння выдатнага беларускага паэта Максіма Багдановіча, з удзелам гасцей з Беларусі. Ініцыятарамі вечара былі студэнты-беларусы, якія вучацца ў гэтым цікавым украінскім горадзе, а таксама ўкраінскія выкладчыкі мясцовага ўніверсітэта.

На трэцім курсе ўкраінскага ўніверсітэта ў Львове вучыцца беларуская паэтэса Валя Колтун, родам з беларускага Палесся. Яе вершы друкаваліся ў літаратурным украінскім часопісе «Жовтень» — вядома, у перакладзе.

### СХОД

Адбыўся справаздачна-выбарчы сход секцыі мастацкага перакладу Саюза пісьменнікаў БССР. Даклад меў вядомы перакладчык Язэп Сяміжон. Удзельнікі сходу звярталі ўвагу на даволі няясную сітуацыю з выдаваннем перакладаў на беларускую мову замежнай і іншанацыянальнай літаратуры. Прапанавалася пачаць выдаванне перыядычнага альманаха «Гарызонт» на беларускай мове, у якім друкаваліся б лепшыя пераклады сучаснай прагрэсіўнай літаратуры.

(С. Я.)

## ПОЛЬШЧА

### У СЕЙМЕ

20 снежня пасля двухдзённых спрэчак Сейм прыняў наступныя пастановы:

1. Пастанову аб Нацыянальным гаспадарчым плане на 1967 год і асноўных прадпасылках плана на 1968 год.

2. Бюджэтны закон на 1967 год.

3. Зацвердзіў справаздачу ўрада з выканання Нацыянальнага гаспадарчага плана і бюджэту дзяржавы на 1966 г., а таксама ўдзяліў ураду адабрэння.

### КУРС НА ЗБОЖЖАВЫЯ КУЛЬТУРЫ

У час апошніх абрадаў Сейма забіраў голас міністр сельскай гаспадаркі, Мечыслаў Ягельскі, які між іншым, зрабіў пералік эканамічных стымулаў, мэтай якіх будзе пашырэнне збожжавых культур. Будуць гэта: нізкія цэны сартавога насення, палёгкі пры захадах аховы раслін, адпаведная палітыка механізацыі, зніжка цэн штучных угнаенняў, палёгкі ў падатках, беспрацэнтныя крэдыты і бясплатны транспарт для гаспадарак, якія будуць спецыялізавацца ў прадукцыі збожжа, новыя ўмовы кантрактацыі. Кранаючы іншыя справы нашай сельскай гаспадаркі міністр Ягельскі сцвердзіў, што ад 1 студзеня 1967 года ўведзена будзе абніжка аплат за капітальны рамонт гусенічных трактараў, а таксама, што Міністэрства сельскай гаспадаркі прызначае ў 1967 годзе 350 мільёнаў злотых на інвестыцыі ў галіне сельскагаспадарчай асветы. З усіх формаў сельскагаспадарчай асветы карыстаць будзе ў гэтым годзе 250 тысяч вясковай моладзі.

### СТАЛЬ

План прадукцыі сталі на 1966 год перавыкананы на каля 150 тысяч тон. Прадукцыя сталі на 1967 год будзе на 460 тысяч тон большай ад запланаванай на 1966 год і ўпершыню перакрочыць 10 мільёнаў тон.

### РАМЯСТВО

Палітыка падтрымкі рамяства прынесла выразныя вынікі. Наколькі пад канец 1965 года было ў краіне 138.500 рамесніцкіх прадпрыемстваў, у якіх працавала звыш 200 тысяч асоб, то пад канец 1966 года існуе 148 тысяч прадпрыемстваў, у якіх працуе звыш 265 тысяч асоб.

Адначасова ад 1 студзеня 1967 года ўваходзяць у жыццё новыя акты праўныя, якія прыносяць далейшую палёгку для рамяства.

### БЯСПЕКА ПРАЦЫ

Ад 1 студзеня ўваходзяць у жыццё новыя распараджэнні Прэзаса Савета Міністраў у справе бяспекі працы. Распараджэнні накладаюць на кіраўнікоў прадпрыемстваў абавязак усебаковага даследвання ўмоў і прычын кожнага няшчаснага выпадку ў час працы, а на непасрэдных начальнікаў рабочага, які меў выпадак, абавязак сарганізавання дапамогі, паведамлення аб выпадку службы бяспекі працы і забеспячэння месца выпадку. (У. П.)

## ВАЯВОДСТВА

### 10-ЦІГОДДЗЕ СВМ

10 год таму назад — 3 студзеня 1957 года быў заснаваны ў Беластоку Арганізацыйны камітэт Саюза вясковай моладзі. Цяпер маладзёжная вясковая арганізацыя налічвае на Беласточчыне амаль 40 тысяч членаў, аб'яднаных у 1743 гуртках. На першае месца па колькасці членаў высоўваецца Высокамазавецкі павет. Там аж 45 працэнтаў усяе моладзі знаходзіцца ў гуртках Саюза вясковай моладзі. На арганізацыйныя дасягненні гэтага павета маюць цяпер арыентавацца ўсе іншыя. Як вынікае з намераў і планаў Ваяводскага праўлення Саюза вясковай моладзі, гэтая арганізацыя ў бліжэйшых гадах мае пераўтварыцца ў масавую маладзёжную вясковую арганізацыю. Да канца 1967 года ў гуртках СВМ знойдзецца не менш палавіны ўсяе вясковай моладзі, а гурток СВМ будзе дзейнічаць у кожнай другой вёсцы. Ніхто, зразумела, не думае сілай наганяць у маладзёжную арганізацыю. Яе членам не гарантуецца таксама ніякіх прывілегій. Наадварот, дадаецца толькі абавязкаў. Ваяводскае праўленне СВМ намерана зацікавіць сваёй арганізацыяй і яе дзейнасцю несарганізаваную вясковую моладзь шляхам правядзення цікавых мерапрыемстваў, наладжваючы працу ў гуртках так, каб яна цікавіла ўсіх маладых у вёсцы. Цяжка было, для прыкладу, склікаць сход або нейкую канферэнцыю. Моладзь не любіць слухаць доўгіх выступленняў. Дык у Саюзе вясковай моладзі прыдумалі іншае: два разы ў год наладжваюць сваім актывістам трохдзённыя гульні з дакладна апрацаванай праграмай. Моладзь весела, але змястоўна праводзіць час і адначасова прысвойвае патрэбныя веды. Шырокім зацікаўленнем карыстаюцца ўжо конкурсы на безалкагольную вечарынку. Маладзёжная вясковая арганізацыя сістэматычна дбае за павышэнне ведаў сваіх членаў. СВМ арганізуе і апякуецца курсамі сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Даўжэйшы ўжо час Баяводскае праўленне гэтай арганізацыі змагаецца за апрацаванне доўгатэрміновага, але, на колькі гэта магчыма, канкрэтнага плана размяшчэння ў вёсках featнага роду рамесленых і прадукцыйных аб'ектаў. Разыходзіцца пра тое, каб кожны малады чалавек ведаў, што будзе будавацца ў яго аколіцы або ў роднай яго вёсцы і якія кваліфікаваныя людзі будуць там патрэбны. СВМ ахвотна дапамог бы, для прыкладу, абучаць трактарыстаў, кіраваў бы і на іншыя курсы найбольш адпаведных людзей, але ніхто дакладна не ведае, колькі, калі і ў якіх вёсках яны спатрэбяцца.

Вёскі Беласточчыны хутка змяняюць свой воблік. Саюз вясковай моладзі лічыць сваім асноўным заданнем актыўна ўдзельнічаць у гэтых пераўтварэннях. 10-цігадовая дзейнасць даказвае, што СВМ можа і патрапіць арганізаваць вясковую моладзь. В.Р.




NIEDZIELA 1. I.

9.00 Dla młodych widzów: „Chłopiec z dwóch światów" — film fab. duński; 10.30 „Matka poznaje swego, jak mu tam..." — film („Czarownice"); 11.00 Dla dzieci: Kino Ptyś; 11.30 „Teleplastikon"; 12.05 Koncert Noworoczny z Wiednia; 13.20 Teatr Młodego Widza: Janusz Domagalik „Banda Rudego" odc. I; 14.00 „Sport 1966"; 15.05 „Geniusz sceny" — film archiwalny pol; 16.30 „Świat 66"; 17.10 „Młode talenty" — film tv pol. („Wojna domowa"); 18.00 Teatr Niedzielny: A. Cwojdziński „Hipnoza"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 Nowe i stare piosenki śpiewa Mark Bernes (ZSRR); 20.35 Słownik wyrazów obcych; 20.55 „Niagara" — film fab. USA; 22.20 Niedziela Sportowa.

PONIEDZIAŁEK 2. I.

9.00 „Rudy, miód i krzyże" — film („Czterej pancerni i pies"); 16.00 Dla dzieci: Teleferie — 1. Liga Entuzjastów Wakacji, 2. Film; 17.15 Wiadomości dziennika; 17.20 „7 milionów młodych"; 17.35 Film rozrywkowy; 17.50 Program publ.; 18.15 „Spacerkiem po kinach"; 18.45 „Eureka"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 Rep. filmowy; 20.20 Teatr TV: „Wystrzał" — film tv pol.; 21.30 „Na półkach księgarskich"; 21.45 Dziennik TV; 22.10 Sprawozdanie z międzypaństwowego meczu hokejowego Polska — Norwegia.

WTOREK 3. I.

9.00 „Most" — film tv pol. („Czterej pancerni i pies"); 11.00 „Oskarżony" film fab. CSRS; 15.25 Przysposobienie rolnicze; 16.00 Politechnika TV; 17.00 Wiadomości dziennika; 17.05 Dla młodych widzów: Teleferie — 1. Wiersze nie na dobranoc — turniej poetycki, 2. Film; 18.10 Informator handlowy; 18.20 „Nauka Polska" — teleturniej; 18.50 „Na morskich szlakach"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Oskarżony" — film fab. CSRS; 21.45 Program studencki; 22.10 Dziennik TV; 22.30 Politechnika TV.

ŚRODA 4. I.

9.00 „Rozstajne drogi" — film tv pol. („Czterej pancerni i pies"); 11.00 „Alfred Hitchcock przedstawia" — film; 15.50 „Przypominamy, radzimy"; 16.00 Dla dzieci: Teleferie—1. „Pan Półka i spółka", 2. Film; 17.00 Wiadomości dziennika; 17.05 „Nie tylko dla pań"; 17.25 Wszechnica TV; 18.00 „Sylwetki X Muzy"; 18.25 „Pod znakiem jakości"; 18.45 Program muzyczny; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Hallo! Cowboy!" — film; 20.15 „Alfred Hitchcock przedstawia" — film; 21.15 „Światowid"; 21.45 PKF; 21.55 Film; 22.25 Dziennik TV.

CZWARTEK 5. I.

9.00 „Brzeg morza" — film tv pol. („Czterej pancerni i pies"); 15.30 TV Kurs Rolniczy; 16.00 Dla młodych widzów: Teleferie — 1. „Klub pod Smokiem"; 2. Film; 17.15 Wiad. dz. TV; 17.20 „Róża Środkowej Azji" — film bułg. 17.45 „Na zdrowie"; 18.05 „To co najlepsze"; 18.45 Program muzyczny; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.15 — film fab. 21.55 „Refleksje"; 22.25 Dziennik..

PIĄTEK, 6.I.

11.55 Dla szkół: (kl. XI) Propedeutyka filozofii: „Historyczny charakter praw społecznych"; 16.55 Wiadomości dz.; 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka"; 17.15 Dla młodych widzów: „Święto na lodzie" — program TV Radzieckiej; 18.00 „Azymut"; 18.30 „Wielokropek"; 18.45 Wszechnica TV; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 — film fab.: 21.45 „10 minut recenzji"; 21.55 Dziennik TV; 22.10 Teatr TV: „Niebezpieczne związki".

SOBOTA, 7.I.

10.00 „Przygoda noworoczna" — film fab. pol.; 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Biologia — „Układ krążenia"; 16.25 Program tygodnia; 16.40 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci"; 16.55 Wiadomości; 17.00 Dla młodych widzów. „Dla każdego coś miłego"; 17.45 „Spotkanie z przyrodą"; 18.10 Tele-Echo; 18.40 „W przestworzach"; 18.55 Film; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.00 „Pegaz"; 20.45 „Belphegor czyli upiór Luwru" — film; 21.10 Dziennik TV; 21.25 Wiadomości sportowe; 21.35 Program rozrywkowy; 22.35 — film fab.;




**30 снежня, пятніца**

15.00 Для дзяцей. Мультыплікацыйныя фільмы. 15.20 Навагодні канцэрт для малышоў. 16.00 Як сустракаюць новы год у розных краінах свету. 16.55 «Барон Мюнхаўзен». Мастацкі фільм.

**31 снежня, субота**

13.30 «Навагодні карагод». Канцэрт для дзяцей. 14.00 Дзіцячы экран. 18.30 Літаратурная Беларусь. 19.20 Тэлевізійны тэатр мініяцюр.

**1 студзеня, нядзеля**

14.20 «Спявае Людміла Зыкіна». 15.50 Эстрадная праграма. 17.00 Цыркавая праграма. 18.30 «Сцеражыся аўтамабіля». Мастацкі фільм. 20.00 «Балет на лёдзе».

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 97

## Алесь Барскі

* ✲ *

Навошта Праметэй прынёс агонь людзям
з яго фугас з яго напальмы
не лепш было б сядзець на дрэвах нам
і скавытаць прыродзе псальмы?
Не выдзяляць сябе з кагалу абязьян
паесць паспаць пабушаваць у дрэвах
не ведаць слёз не мець душэўных ран
скуголіць прымітыўным спевам
і з верхавін глядзець у млечны шлях
не ведаць што жыццё мінае што цячэ
не ведаць што старая добрая зямля
у смерць бяжыць усё хутчэй

* ✲ *

Маіх гадоў ты не лічы дакладна
ні валасоў на скроні белых
я ведаю у многім я нескладны
таму саромлівы таму нясмелы
гады мае як на іскрыпцы струны
парваліся з адчайным крыкам
і праплылі дзесяцігоддзяў труны
у свет дзе ціша ёсць музыкай
прабач ты мне прабач мне мнагагоддзе
затрымай маю старасць на хвіліну
і забушуй сягоння паўнаводдзем
і не лічы маіх гадоў дзяўчына

* ✲ *

Тут больш лісця чым неба і зямлі
лісцё павісла хісткім мостам
па ім іду я сын далін
я пушчы раб ды і апостал
не трэба слоў яны цяжкі багаж
ні роздуму ні розуму развагі
калі хрыбта лісця трымаецца нага
кабура сэрца поўная адвагай
вось тут рой птушак моліцца вясне
між іх я сеў спяваю гімны оды
дзе песня ёсць там зла канец
і там пачатак крыл свабоды
не хочацца вяртацца да людзей
у свет заяў дакладаў дырэктыў
больш не магу ні слухаць ні глядзець
як вучаць шчасця чорныя каты
каб толькі ліст астаўся пад нагою
загоіць раны ён адсуне здзекі
распаліць ачышчальны ён агонь
цябе учыніць песня — чалавекам

* ✲ *

Калі заглушыш гоман гарадоў
сваім маўчаннем цішынёй
і як аддзелішся ад свету ты куртынай
і як прыліпнеш да айчыны успамінаў
тады напэўна створыш верш
але што цалкам ён ёсць твой
не вер
заглянь у глыбіню яго
убачыш карагоды зор
убачыш трапяткі агонь
віно ў крыштальных чарках
палічыш верша элементы
адзін — плод сэрца і душы
другі — чар роднае зямлі
і трэці — чар Пэтраркі

* ✲ *

Верш — згартаннем хараства ў пракосы
хвалі траў пахучых і зялёных
расплятанне заплятанне косаў
бацькаўшчыне верш паклонам
а сябе парадуеш намучыш
як забаўку знімеш з неба зорку
узляціш і звалішся на крушні
і нап'ешся асалоды горкай
верш як крыллі жнівеньскіх аблокаў
у анельскай рэзьбяны майстэрні
калі лічыш прыгажосць пялёсткаў
палічы ў ім таксама церні

Нікола Буало заўважыў, што невялікі, але дасканалы санет варты больш, чым даўжэзная, бяздарная паэма. Гэтая заўвага, выказаная каля трохсот год таму, выдатным французскім тэарэтыкам класіцызма і ў наш час не страціла ні грана са сваёй актуальнасці ў роўнай меры ў адносінах да творчых асяроддзяў з багатай традыцыяй, як і маладых літаратурных арганізмаў.

Для нас, белавежцаў, выказванне Буало мае асабліваe, надзённае значэнне. Па-першае таму, што мы яшчэ, відаць, доўгі час будзем мець магчымасць друкаваць толькі невялікія па аб'ёму творы. Па-другое, і гэта, здаецца, з'яўляецца найбольш істотным, пераходзіць да вялікіх палоцен можна толькі тады, калі мы ў малых літаратурных формах дасягнем майстэрства высокай пробы. Практыкаванне ў малых формах дазволіць нам павучыцца сапраўднаму пісьменніцкаму майстэрству знаходзіць у агульным і вылучаць з яго самае істотнае і яскравае адзінкавае, будаваць твор скандэнсавана, выпрацоўваць рэльефную і ўздзейнічаючую на чытача вобразнасць, усямерна клапаціцца пра наш слоўнік.

Іменна з пункту гледжання вымаганняў, якія ставяць перад пішучым малыя літаратурныя формы, нам і хочацца глянуць сёння на творчасць Сакрата Яновіча, змешчаную ў першым нумары альманаха «Белавежа».

## ДОБРЫ ПАЧАТАК

Яновіч запрапанаваў чытачу шырокі тэматычны і жанравы дыяпазон твораў. Знаходзім тут вершы ў прозе («Валошка», «Прыехаў», «Салдату», «Бярозка ля акна», «Доня-дачанька», «Сны» і іншыя); лірычныя сцэнкі («Гульні нібы дзіцячыя», «Нінка», «Разумей, як хочаш» і шэраг іншых); сатырычныя замалёўкі («Квіты», «Размова», «Дзяга», «Хітрасць», «Горад», «Грошы»). На жаль, у альманаху яны не сістэматызаваны, і гэта ў значнай меры перашкаджае чытачу вынесці акрэсленае ўражанне ад кожнага з жанраў. Пасля іх жанравага і тэматычнага ўпарадкавання даецца заўважыць, што ў кожным з жанраў ёсць у С. Яновіча яскравыя мастацкія здабыткі і не менш выразныя хібы і няўдачы. Пры гэтым не будзе лішнім сцвердзіць, што аўтару ўсе тры жанры ў роўнай ступені даступны і авалоданы ім.

Сярод лірыкі ў прозе глыбінёй зместу і мастацкай завершанасцю вылучаюцца: «Салдату», «Прыехаў», «Бярозка ля акна», «Доня-дачанька», «Валошка», «Сны» і некалькі іншых. У іх аўтар выэкспанаваў тыя дробязі надзённасці, праз якія і побач якіх мы праходзім з халоднай абыякавасцю, а яны ж вельмі часта складаюць змест нашага жыцця. Тут ён звяртаецца да сына, што прыехаў з армейскай службы на пабыўку, каб прысвяціў сваім бацькам-старэчам часцінку свайго сэрца і часу («Салдату»), б'е на трывогу аб трагедыі бяздольнай старасці, заціснутай пад сялянскай страхой і забытай дзяцьмі («Прыехаў»), патрабуе ўвагі да пачуццяў і перажыванняў кожнага чалавека («Бярозка ля акна»), сцвярджае недаўгавечнасць прыгожага («Валошка»), цешыцца, гледзячы на неўтаймаваную бесклапотнасць маладосці («Доня-дачанька») і на метамарфозы, якім падвергліся нацыя беларускія вёскі («Сны»). Пад адрасам гэтых вершаў можна толькі закінуць адно: прыём нарачытага дыдактызму, які не можа быць паўсямесным у малых літаратурных формах.

Побач з гэтымі ўданымі творамі ёсць і такія, у якіх аўтар кранае істотныя і хвалюючыя праблемы нашай рэчаіснасці, аднак мастацкая недапрацаванасць у вялікай меры зніжае іх вартасць, для прыкладу: мініяцюра «Хата» пазбаўлена развітай вобразнасці і пуэнты (канцоўка: «Наша хата цацы!» па сутнасці пазбаўлена зместу). Аўтар таксама не даў поўнага мастацкага выразу цікавым наогул задумам у такіх вершах, як: «Чаго?», «Думка не конь», «У шлюбнай пасцелі», не стварыў каларытнага вобразу ў «Фэсце» (хаця тэма тут як найбольш яму спрыяла), насыціўшы гэты твор зашорганымі і ў даным выпадку няўмеснымі зваротамі, як: «дзевятая хваля ўбогіх пагоркаў», «графік малебнаў» і словамі: «экстаз», «файрант», якія нясуць у сабе неадпаведны тэме сэнсавы змест.

З ліку лірычных сцэнак сваёй дасканаласцю вылучаюцца: «Нінка» і «Гульні нібы дзіцячыя», у якіх аўтар стварыў нам магчымасць зусім не лішні раз пераканацца ў тым, што нашыя нашчадкі цалкам не цураюцца паўтараць агідныя звычаі нашага, старога пакалення. Аднак сцэнка «Разумей, як хочаш», нягледзячы на яе хітраваты загаловак, застаецца чытачу абсалютна незразумелай і гэта перад усім па прычыне яе мастацкай бледнасці.

Сярод сатырычных замалёвак хіба ж маем у С. Яновіча найбольшы лік сапраўдных паўнавартасных здабыткаў. Адметныя іх рысы — гэта тэматычнае багацце, майстэрства дыялагу і ўменне канструяваць вобразы. Для прыкладу прыгадаем вось гэты ўрывак з замалёўкі «Дзяга»:

«— Сем двоек... — прахрыпеў бацька. Дрыжачаю рукою паставіў ліхтар і паволі расперазаў дзягу.
— Тата... татачку!.. Больш не буду!!.. Папраўлюся!!! Певень шмыгнуў першым. Забрахалі сабакі. За сцяною ляніва рохкаў кормнік — як бы лічыў.

Прыйшоў начны стораж».

Эканомна. Пераканаўча. Прыгожа. І так амаль ва ўсіх замалёўках. Толькі мастацкае вырашэнне сатыры «Грошы» выклікае акрэсленыя засцярогі: тут залішняя кандэнсацыя сродкаў, а ў сувязі з гэтым і ўбоства вобразаў прычыніліся да таго, што атрымаўся незразумелы камячок дыялагу, вырванага з невядомага кантэксту.

У заключэнне неабходна сказаць, што не гледзячы на хібы і недахопы (хто ж ад іх застрахаваны?!), у асобе С. Яновіча мы маем ужо цалкам сфармаванага і ўмелага мініяцюрыста, ад якога можна патрабаваць і належыць спадзявацца дасканалых твораў. Зарука гэтаму той шляхетны ідэал чалавека чулага, высакароднага і прыгожага, які стварае аўтар, асуджаючы агідныя праявы людской натуры. Яновіч настойліва не хоча ўспрыймаць чалавека такім, якім той ёсць. Ён патрабуе ад людзей «ачышчэння ад ўсялякай скверны» ў імя таго светлага, шчаслівага і велічнага, да якога яны пакліканы самім жыццём. Гэта здаровы і надзейны пункт апоры добра пачаўшага свой творчы шлях пісьменніка.

МІКОЛА ГАЙДУК

## Іван Чыквін

* ✲ *

Ты не хочаш быць адзінокай —
Запрагаеш усе свае сілы
і цягнеш як нейкі асілак
шчасце сваё аднабока.

Ноччу спакуслівы мары
б'юцца аб прыстань жаночу
і хочуць, хочуць ахвяры
гладыятарства хочуць.

І змучана нашчым змаганнем
спіш раз'яднаная з светам
уся у пошуках цацак,
сном анэмічным паэта.

* ✲ *

І чахну і сохну і рады няма —
трэба у зямлю зарыцца,
зыйсці да чарвякоў, раслін,
загубіць свае формы,
быць паасобна у дрэвах і кветках,
у зямлі і вадзе, у паветры і гноі;
нічым і усім
ніколі і заўсёды
кругаварот прадаўжаецца —
добра што я часціна прыроды
можа калі буду
без'языкай скацінай

### НА ПАПАСЕ

Мы паслі ноч.
Гарэў касцёр духмяна
і падалі
бы скваркі
зоры ў атмасферу,
Стаялі горы
нясоленай атавы
і цемната
яе трымалася аберуч.

З кустоў, з птушынага сяла
драчы крычалі горка,
як быццам нехта іх акраў
ці пачаставаў махоркай.

На тонкім променні цяпла
кружылі над агнём мы
і песня нашая дзяўбла
начныя сцены звонка.

Мы паслі ноч —
балела галава ад папярос
і спалася, як бульбе у загоне;
На выган дзень упаў і рос
і ў чужым — заржаўленыя коні.

### ДРЭВА

высахла дрэва — сухімі рукамі
паветра згартае у мёртвыя ногі
ратунку шукае і палец за пальцам
зямлю цалуе ў трэскатні паклонаў
адсядаюць малітвы вароны-манашкі
вецер ім крылы схаваў пад спадніцу
і гойсаюць з трупам яны па блакіце
хмары мінаюць з плачлівым ім крыкам.

* ✲ *

Хочаш не хочаш
дадуць табе імя,
за сталом пасадзяць
чарку кропнуць
навучаць
навучаць кусацца
грашыць навучаць
навучаць уцякаць
дабро капіць навучаць
навучаць пагарды да людзей
ілгаць навучаць
навучаць лазіць пастаянна ў рай
і раней бацькі ў пекла не лезь
навучаць
хочаш не хочаш
цярпі чужую дурнату,
пачатак дрэннага

 




(Працяг са стар. 1)

Аб гуртках, аб тым, каб лепш яны працавалі, каб аддзел больш даваў для актыву інструктажу, каб часцей праводзіў нарады для актыву гаварыў Мікалай Свентахоўскі з Вэрпаля.

Канферэнцыю закончыў падсумаваннем дыскусіі Анатоль Мартыновіч, які звярнуўся з заклікам: арганізаваць спатканні з удзельнікамі Кастрычніцкай рэвалюцыі, пашыраць падпіску «Нівы», павялічваць арганізацыю БГКТ, збіраць экспанаты для музея БГКТ, шырэй разгортваць аматарскі рух. Вёў канферэнцыю Янка Вішэнка.

**БЕЛАСТОК**

Справаздачны даклад аддзела, які прачытаў Васіль Баршчэўскі, гаварыў аб тым, чым займалася праўленне і яго прэзідыум на працягу 1965 года, з якімі цяжкасцямі яно спатыкалася ў сваёй працы. У гарачай дыскусіі пасля даклада галоўная ўвага была накіравана на недахопы дзейнасці аддзела.

Датычыла гэта перад усім арганізацыйных недахопаў высвятляння савецкіх фільмаў, прычын распаду балетнай групы, недахоп фотавыставак, а таксама таго, што не заняты штат інструктара для гарадскога аддзела.

Дыскутанты пастулавалі: навязаць супрацоўніцтва са ЗБОВіД-ам, праяўляць большую ўвагу жывому мастацкаму беларускаму слову, паменшыць членскія складчыны для пенсіянераў, арганізаваць драмгурток, палепшыць культурна-асветную працу клуба.

На канферэнцыі было сказана, што аддзел у 1967 годзе правядзе конкурс на беларускую песню, дэкламатарскі конкурс для школьнікаў, конкурс на падпіску «Нівы» ў Беластоку.

Канферэнцыя закончылася больш як двухгадзінным цікавым канцэртам новаўтворанай эстрады аддзела і выступленнем дзіцячага калектыву акардэаністаў. Вёў канферэнцыю Кастусь Масальскі.

**М. Х.**

# ХЛОПЦЫ З-ПАД САКОЛКІ

Інж. Ежы Тарлецкі, дырэктар Чорна-Беластоцкай ВВП, папулярна званай Вытвурні, не мае лёгкага хлеба. Цяжка жывецца такому дырэктару, які не мае чым пахваліцца, як кажуць, на сто два пахваліцца.

У Вытвурні нараджаюцца новыя рэчы, Вытвурня перажывае маладое мацярынства, поўнае неспакою за тое, што будзе далей і як будзе? ВВП сабралася вырабляць новы тып халадзільнікаў «Шрон - Люкс». І, нягледзячы на «люксусовую» назву яго і зграбны выгляд, гэты халадзільнік не зусім апраўдаў спадзяванняў. Унізе гэтага халадзільніка замест холаду ёсць адліга (+2° С). «Шрон - Люкс» проста завысокі.

Першыя партыі гэтага халадзільніка гандаль раскупіў мамантальна і просіць больш. Шэфы Беластоцкага ПДТ гавораць:

— Каб толькі былі, усе пойдуць.

Як жа не цешыцца такімі словамі! Тым больш пацяшальнае, што такія халадзільнікі, як «Сілезія», якія вырабляюць вядомыя ўжо фабрыкі, стаяць, і мала хто купляе іх.

Да гэтага часу ВВП вырабляла халадзільнікі «Шрон». Іх назва, праўда, скрамнейшая, але людзі кажуць, што тыя «Шроны» мелі «лепшы холад». Дырэктар Тарлецкі не тлумачыў мне, чаму так сталася. Гэту, відаць, на яго погляд непрыемную размову «зваліў» на інж. Благушэўскага, які засыпаў мяне рознымі тэхнічнымі данымі, унікаючы прытым як агню каментарыяў ад сябе. Я разумеў сітуацыю інж. Благушэўскага.

Дырэктар чагосьці забаяўся. Думаю, што гэтакі дырэктарскі страх не на месцы. Бо, урэшце-рэшт, трэба ведаць, што халадзільнік «Шрон - Люкс» апрацаваны ўласнымі ВВП-аўскімі інжынерамі. І гэта найбольш пахвальна. А тое, што не так удалося, як хацелася, цалкам натуральнае. У нас няма традыцый машынабудаўнічай прамысловасці, няма традыцый канструктарскай дзейнасці. Пустое поле.

Не маю тут на ўвазе нікога пацяшаць. Выказваю толькі агульнавядомую праўдзівасць у стабілізацыі прамысловасці і яе развіцці. Старыя маюць добрую пагаворку: — Навука каштуе грошы! Агітатары перайначылі яе па-свойму: — Вучымся на памылках.

«Шрон-Люкс» напэўна не памылка, усяго толькі памылачка, якую можна выправіць, калі не апусціцца рук і не накрычыць Варшава - зазнайка.

ВВП вырабляе таксама разнатыпныя раскідальнікі гною. Здабывае імі замежны рынак, чэхаславацкі рынак збыту. У Чорна - Беластоцкую ВВП прыязджаюць на практыку чэшскія і славацкія тэхнікі, якія знаёмяцца з канструкцыяй і абслугай гэтых раскідальнікаў, растрасальнікаў. Словам, у Чорнай Беластоцкай паявілася заграніца. Шэф ад персанальна-кадравых спраў, Шыманак, думае аб кватарунку і выгодах гасцям. Але яшчэ мацней хітруе ён над кадравай сітуацыяй ВВП. Працуюць сотні і тысячы рабочых, якія паходзяць з навакольных вёсак. От, такія сабе хлопцы з-пад Саколкі. Апынуліся яны ў фабрыцы, дзе не ўсё можна, не можна адкласці работы на другі дзень, як на гаспадарцы. На хапу-цапу не створыш з іх вялікага дысцыплінаванага атрада рабочага класа. У Чорнай ніколі яго не было, а і самая мясцовасць не так даўно яшчэ называлася Чорнай Вёскаю, і была ёю. І застаецца ёю, калі маем казаць праўду. Быў я ў рабочым інтэрнаце, у гэтым доўгім казармападобным будынку. Дзе-нідзе на стале ў пакоі каваліска чорнага вясковага хлеба, сала. Здаецца, што гэтыя людзі з'ехаліся сюды, каб прызарабіць да гаспадаркі, ну, і на касцюм альбо матацыкл. Аднак, часамі, у гутарцы блісне заклапочанасць справамі ВВП-аўскай фабрыкі і яе прадукцыі. І гэта будзе першым знакам таго, што гурба гэтых рабочых пачынае адчуваць еднасць інтарэсаў. Бо ВВП з'яўляецца месцам іх будучага жыцця. Ніхто не думае аб павароце на гаспадарку, а чорны хлеб на стале, гэта след сувязі з бацькаўшчынаю. Той сувязі, якая згасне, перагарыць.

Час, як век бацькоў.

У клімаце пустапольнага сухавею і перамены людзей нарадзіліся «люксавыя» амбіцыі ВВП. Амбіцыі, мабыць, крыху паспешлівыя, але не смешныя. Як не кажы, але без амбіцый няма будучыні. Нараджаецца беластоцкая прамысловасць. Прыглядаемся да яе першых дрыготкіх крокаў. Але, калі дзіця раз стала на ногі, хадзіць будзе.

ВВП пачынае выпуск некалькіх новых тыпаў растрасальнікаў, працуе над паляпшэннем «Шрон-Люксаў», якіх запланавана ўжо выпусціць у гэтым годзе каля 35 тысяч штук. Шыманак паказаў мне цэлую пасеку новых «блёкаў» для рабочых сем'яў, пераважна, маладых. Вёска разрастаецца ў штосьці вялікае, новае і штораз больш шумнае. І штораз больш амбітнае.

**Кастусь Янкоўскі**

# Праўда і мары

(Працяг са стар. 1)

чытальніцтва патрабуем і адных і другіх. Сказаць трэба, што старэйшае насельніцтва ў нас больш патрыятычнае, больш здысцыплінаванае.

**— А што за тым, і больш надзейнае?**

— Таварыства дае месца ўсім ахвотным да працы: старым і маладым.

**— Што найважнейшае ў нашай працы? Энтузіязм, адукацыя, патрыятызм?**

— Я б усе гэтыя рысы спалучыў. Цяжка ўявіць, напрыклад, малаадукаванага члена літаратурнага аб'яднання, навуковага гуртка, члена грамадскай камісіі. Я трымаюся тэзіса: XX стагоддзе — стагоддзе навукі і розуму. Мы будзем заўсёды прыцягваць энтузіястаў і патрыётаў з гарачым сэрцам і халоднай галавой.

**— Як ацэньваеце выказванні аб беларусах і Таварыстве папярэдніх нашых размоўцаў — дзеячоў беластоцкіх культурных установаў?**

— Выказванні былі аптымістычныя. Пажадаць толькі, каб яны здзейсніліся, хаця гэта справы складаныя. Як можна, напрыклад, гаварыць аб развіцці чытальніцтва, калі ў бібліятэках мала беларускіх кніжак, або як можна гаварыць аб развіванні мастацкага руху, калі няма рэпертуару.

**— А аб выдавецтвах? Што будзе ластаўкай у новым годзе?**

— Адной з найбольшых нашых амбіцый — выдавецкая дзейнасць. Выдалі мы ўжо 19 пазіцый у тыражы 80 000 экземпляраў. Кніжкі вельмі розныя.

**— Ці я не абражу вас, калі падкажу, што выдавецкая дзейнасць Таварыства — гэта ваш конік?**

— Не абразіўся. Але далей аб нашых кніжках. Яны не залежваюцца. Можна смела сказаць: трапілі пад стрэхі. На выдавецтвах абапіраецца наш кнігаабмен з БССР, наш аўтарытэт у краіне. А роля іх для будучых пакаленняў ужо проста неацаніма.

**— Што выйдзе?**

— У 67 годзе мы выдавецкую дзейнасць амаль патроім. У першых месяцах выйдзе зборнік вершаў Віктара Шведа. Рыхтуецца зборнік Алеся Барскага, Івана Чыквіна, трэці навуковы зборнік, літаратурны альманах, каляндар.

**— А далей на 5-годку?**

— Мы абавязаны будзем выдаць казкі для дзяцей. Рыхтуем зборнік успамінаў аб Грамадзе. Карыстаючы з нагоды, я вельмі прашу дасылаць у ГП свае ўспаміны, няважна, у якой мове. Хацелі б выдаць зборнік фальклору.

**— Аб чым марыце, уступаючы ў новы год? Адкрыйце нам свае мары і грамадскія, і асабістыя.**

— Мары, мары... Маімі марамі: каб бурна пачало развівацца Таварыства, каб паляпшалася атмасфера і сужыццё паміж людзьмі, каб часцей адзін да другога заходзілі ў госці, у тым і на Новы год.

Асабістая мая мара: каб адукацыя ішла добра.

**— Вы пачалі пісаць доктарскую працу. Аб чым?**

— Паўднёвы-ўсход Беластоцкага ваяводства. Будзе гэта геаграфічная праца.

**— Поспехаў Вам і спаўнення навагодніх мараў.**

**ВЕРА ЛЕЎЧУК**

# Да пытання аб выніках навучання ў беларускіх ліцэях

Шаноўнаму чытачу трэба прызнацца, што аўтар запланаваў напісаць аб выніках навучання ў беларускіх ліцэях і аб узаемным уплыве чатырох моваў, якіх вучыцца моладзь у гэтых ліцэях: беларуская, польская, руская і заходнееўрапейская або лацінская, і што поўнасцю зрабіць гэтага мне не ўдалося. Заняцца гэтым заахвоціла часта паўтараючаеся сцвярджэнне (але без довадаў), што беларуская мова перашкаджае ў навучанні польскай мовы, і што вучні беларускіх школ будуць мець цяжкасці ў далейшай адукацыі ці працы. Аб лёсах абсальвентаў бел. ліцэяў напішам у наступным нумары.

Пошукі матэрыялаў пачаў я ад Куратарыум. Надарэмна. Тут сказалі мне, што ў выніку дэцэнтралізацыі ўсе справы звязаныя з агульнаадукацыйнымі ліцэямі пераказана аддзелам асветы ў паветах. Яны (аддз. асветы) займаюцца візітацыямі ліцэяў, вядуць доследы вынікаў навучання і маюць усе матэрыялы. Узрадаваны я паехаў у Бельскі інспектарат. Калегі інспектары вытлумачылі, што сапраўды фармальна справы ліцэяў пераказаны, але ніхто з інспектарату іх не візітаваў і ў справе вынікаў навучання нічога не могуць сказаць.

Паехаў у Гайнаўскі ліцэй. Дырэктар на маё пытанне аб выніках навучання выказвае заклапочанасць.

— Ведаеце, у час візітацыі мы выходзілі не вельмі добра, — гаворыць А. Тропак.

Прашу павізітацыйныя дакументы. Хачу ў іх адшукаць даследванні вынікаў навучання, якія звычайна праводзяць візітуючыя. Прасачыў цэлую папку з пратаколамі. І знайшоў аж... два пратаколы. Вынікае з іх, што **Гайнаўскі беларускі ліцэй быў візітаваны раз у 1954 годзе, другі раз у 1964 г.** Іншых слядоў кантролю я не бачыў, і калі яны былі, дык школе ніякай карысці не маглі прынесці. Адразу ж узнікла пытанне: **ці можна нешта вартаснага сказаць аб школе, калі яе візітуецца раз на дзесяць год?**

Нейкую арыентацыю аб узроўні ліцэя дае апошні пратакол з візітацыі праведзенай інспектарам з Гайнаўкі. «Спраўнасць» ліцэя ў 1962/63 годзе выносіла 39,6%, а ў 1963/64 палепшылася да 46,0%. Неабходна дадаць, што былі часы, калі **спраўнасць у Гайнаўскім беларускім ліцэі выносіла 72,7%.** Чаму так сталася, дакументы маўчаць. Калі сказана аб нездавальняючай спраўнасці, дык неабходна падаць прычыны. Інспектар з Гайнаўкі бачыць іх перад усім: у крытычных умовах працы школы, у тым, што большая частка ліцэістаў даязджае, што цесныя памяшкальныя ўмовы не дазваляюць на поўнае абеспячэнне навуковымі дапаможнікамі і так далей, і т. п. У абодвух павізітацыйных пратаколах паўтараюцца сцверджанні: «вучнёўскія сшыткі вядуцца неахайна, сшыткі рэдка калі спраўджаюцца»... Але гэта таксама не мае нічога супольнага з беларускай мовай.

Ацэнкі вучняў за першую чвэрць г. г. не адлюстроўваюць сапраўднага аб школе. На вынікі навучання мелі уплыў: змена настаўніка данага прадмета, вучні прывучаюцца да навукі пасля канікулаў, а часта і настаўнікі за строгія. Але для пэўнай ілюстрацыі падалі некалькі лікаў. У IX «а», дзе вучыцца 42 вучні, з бел. мовы двойкі мела 5 асоб, з польскай мовы — 7 асоб, з матэматыкі — 11; X «б» — 40 вучняў: з бел. мовы 5 двоечнікаў, з польскай таксама 5, з рускай мовы 3 асобы з двойкамі, а з матэматыкі — 13.

Больш-менш падобная сітуацыя і ў іншых класах Гайнаўскага ліцэя. Нават гэтыя павярхоўныя даныя паказваюць, што генеральна беручы гэтыя тры мовы дрэнна на сябе не ўплываюць.

**Тэрэса Ляскоўская, настаўніца польскай мовы** ў ліцэі ў Міхалове, сказала:

**— Дрэннага ўплыву беларускай мовы на польскую абсалютна не адчуваю. Нашыя вучні робяць у польскай мове памылкі, але робяць іх усе, тыя, хто вучыцца бел. мовы і тыя, хто яе не вучыцца. А зрэшты, на ўроках польскай мовы абсалютна не адрозніваю вучняў, якія вучацца бел. мовы і якія не вучацца.**

А паланістка **Станіслава Круцько** таксама з Міхалоўскага ліцэя заявіла:

— Не толькі беларуская мова не перашкаджае вучыцца, але я стараюся яе выкарыстоўваць у XI класе да такіх тэм, як: «Роднасць славянскіх моваў» і «Польская мова на фоне іншых моваў». Аб выніках навучання настаўнікі міхалоўскага ліцэя сказалі коратка: **калі добры вучань, дык добры і ў беларускай, і ў польскай мове.**

Вынікі навучання ў беларускіх ліцэях, якія ўдалося пабачыць, абсалютна не залежаць ад таго, што моладзь вучыцца беларускай мовы. Залежаць яны ад матэрыяльных умоў школы, самой моладзі і ад кадры настаўнікаў.

**Аляксей Карпюк**



 

# На Нараўскім сходзе

(Працяг са стар. 1)
туюць затое сабраных доўгімі выступленнямі.

Прэзас ГС, Аляксандр Пякарскі, здзіўляецца, што ў Нарве можа адбывацца так непадрыхтаваны і арганізацыйна няўмела праведзены сход (неўпарадкаваныя арганізацыйныя справы гуртка, не было падрыхтоўчага сходу, няма аніякага ўрачыстага настрою), успамінае свае ЗМП-оўскія часы, калі ўсё было неяк інакш, лепш і вясялей.

Дырэктар мясцовага ПОМ-у ў доўгім выступленні выводзіць моладзь з яе наіўнасці і павучае аб складанасці жыцця. Усё, аказваецца, не так, як гэта моладзь сабе ўяўляе. Грошай наогул мала, ды каб і былі — патрэбная за іх акрэсленая адказнасць і кантроль уласцівага іх выкарыстання. Дырэктар сумняваецца, ці такой адказнасці і такога кантролю можна спадзявацца ад гуртка ЗМВ з усімі яго арганізацыйнымі хібамі і безупынным зменай яго складу. Затым дырэктар звяртае ўвагу на факт, што члены гуртка ЗМВ не бяруць удзелу ў ідэалагічным шкаленні, якое вядзе мясцовая арганізацыя ПАРП, што сярод моладзі шырыцца хуліганства, але Павятовае праўленне ЗМВ (беднае праўленне — хто яго не лае?) за тое, што не апякуецца гурткамі.

Што можа адказаць моладзь на гэтыя разумна абгрунтаваныя, поўныя жыццёвага вопыту вывады? Нічога. Ды яна і не спрабуе адказваць. Адказвае зброяй найгоршай: абыякавасцю, зяваннем, шаплівымі размовамі ў кутку.

Сход канчаецца. Прысутныя разыходзяцца з пачуццём выкананага абавязку. Але не толькі. Усе тры прадстаўленыя на сходзе бакі: прадстаўнікі мясцовых установ, моладзь і прадстаўнік Павятовага праўлення ЗМВ выйшлі са сходу з пэўным разачараваннем, з пачуццём незразумення іх магчымасці (ці больш за ўсё іх немагчымасці), іх намераў і іх рацый праз прысутных на сходзе.

І таму, насуперак сверх-аптымістычным думкам многіх выступаючых на сходзе, якія прадбачвалі, што пасля сходу настане бурнае развіццё ўсялякай дзейнасці ў нараўскім гуртку ЗМВ, я дазволю сабе ў гэтых прагнозах сумнявацца. А са свайго боку хачу забраць голас з кароткай прапановай: каб прысутныя на гэтым сходзе, калі збярацца на яго за год, ацэньвалі больш рэальна магчымасці партнёраў у дыскусіі, каб памяталі, што моладзь, на жаль, жыве не толькі адным ЗМВ, што ўлады і установы ў сваю чаргу маюць не толькі справы моладзі «на сваёй галаве» і што Павятовае праўленне ЗМВ апякуецца не толькі гурткамі ЗМВ у Нарве.

Толькі ў гэтым выпадку сход можа мець рысы творчай нарады.

Ул. Паўлючук

ВЯСКОВЫЯ ПАРТРЭТЫ



Пры кудзелі. Здымак з Сухініч у Сакольскім павеце. Фота Ул. Паўлючук

# Аўтарскія сустрэчы на Гайнаўшчыне

Па запрашэнню Аддзела культуры, Павятовай бібліятэкі, Праўлення сельгасгуртвоў, грамаскіх радаў і ГС-аў беларускія паэты А. Барскі і В. Швед у днях 26.XI, 10. 11. 12. XII. м. г. правялі аўтарскія сустрэчы ў наступных мясцовасцях Гайнаўскага павета: Нараўка, Навасады, Семяноўка, Лука, Стары Корнін, Чыжы, Клейнікі, Дубічы, Сакі, Тарнопаль. Сустрэчы былі надзвычай цікавымі. Прымалі ў іх удзел як школьная моладзь, так і старэйшыя. На асаблівае вылучэнне заслугоўваюць аўтарскія сустрэчы ў Нараўцы, Навасадах, Чыжах, Дубічах, Луцэ і Саках, дзе ў падрыхтоўку гэтых сустрэч настаўнікі ўлажылі многа ініцыятывы і сэрца. На сустрэчах прысутнічалі сотні людзей, школьная моладзь выступала з прывітальнымі прамовамі, кветкамі, падарункамі, дэкламацыямі вершаў нашых паэтаў. Дарослая моладзь з Лукі пасля сустрэчы запрасіла аўтараў у Клуб-кавярню, дзе адбылася рэпетыцыя п'есы А. Барскага «Гарадскія госці». Аўтар п'есы падзяліўся сваімі заўвагамі адносна выканання паасобных роляў. Варта тут прыгадаць, што «Гарадскіх гасцей» рыхтуюць да пастаноўкі многія драмгурткі Гайнаўшчыны. Асабліва хвалюючымі былі сустрэчы ў Тарнопалі і Саках, дзе паэты выступілі першы раз. Надта цёпла ўспрымаліся новыя дзіцячыя вершы В. Шведа, якія шырока выкарыстоўваюцца на ўроках беларускай мовы.

Аўтары выявілі асаблівую ўдзячнасць такім кіраўнікам школы як: Тамары Белях з Навасад, Міхасю Майстровічу з Сакоў, Янку Ціванюку з Лукі і вядомым дзеячам на ніве беларускай культуры Кульчакевічам з вёскі Чыжы, якія стварылі ўмовы да працягу сардэчнай размовы з настаўнікамі і актывам БГКТ. Цікавай і новай з'явай было і тое, што аўтары сустрэліся з вялікай колькасцю глыбока прадуманых пытанняў, якія датычылі творчасці выступаючых паэтаў і іх асабістага жыцця, дзейнасці БГКТ і яго ролі ў народнай Польшчы. Практычнай вымовай вялікай зацікаўленасці сустрэчамі было тое, што ў часе гэтых сустрэч прадалося каля 100 экземпляраў літаратурнага альманаха «Белавежа». У нашым перакананні гэтыя сустрэчы пакінулі незабыўнае ўражанне ў сэрцах слухачоў і далі цікавы матэрыял да далейшай творчасці беларускім паэтам. Ад'язджаючы А. Барскі і В. Швед шчыра дзякавалі Гайнаўскаму аддзелу БГКТ, мгр. А. Іванюку і сакратару Аддзела за так удала сарганізаваныя сустрэчы і выявілі пажаданне, каб такая форма кантактаў з насельніцтвам прадаўжалася і ў будучыні.

Віктар Бура
Гайнаўка

### МАЛАЧАРНІ

У 1957 годзе ўсе вёскі грамады Юшкаў Груд будуць мець свае малачарні. Зараз на тэрыторыі грамады чатыры малачарні пабудаваныя ў вялікай ступені грамадскім чынам; у бліжэйшым часе пабудуецца яшчэ дзве: у Бахурах і Кухмах. (п)

### ПАЦЭНТНЕРАВЫ РОСТ...

За 1963—1965 гады сярэдняя ўраджайнасць збожжавых культур у Беластоцкім ваяводстве ацэньваецца на 13,7 цэнтнера з аднаго гектара. Павелічэнне ўраджайнасці ацэнена ў сярэднім на паўцэнтнера з аднаго гектара. Наша ваяводства лічыцца найгоршым у Польшчы. (ся)

# РАМАН ПРА ГРАМАДУ

Чутка, што Міхась Машара піша кніжку пра Грамаду, дайшла да нас у мінулым годзе, калі мы ўрачыста святкавалі саракавую гадавіну стварэння гэтай слаўнай беларускай арганізацыі, найбольш масавай, у свой час, рэвалюцыйнай арганізацыі сялян у Еўропе. Не трэба і гаварыць, што чутка выклікала сярод нас вялікае зацікаўленне. Не толькі з увагі на актуальнасць тэмы. Імя Міхася Машары праз 40 год яго творчай працы было нераздзельна звязана з паэзіяй і цяжка было яго ўявіць у іншай ролі. Але і яна цесна звязана з Грамадой. Гэта ж за грамадаўскую дзейнасць трапіў Машара ў 1927 г. на Лукішкі і ў гэтай славутай віленскай турме напісаў першы свой верш.

І вось у руках першы празаічны твор вядомага паэта. Машара даў яму загаловак «Крэсы змагаюцца», а па жанру назваў раманам — хронікай. Адно і другое выразна вызначае характар кніжкі. Перад намі 1925—1927 гады — бурлівы перыяд стварэння Грамады і пераўтварэння яе ў магутную рэвалюцыйную сілу. Падзеі рамана адбываюцца ў глухім кутку роднай аўтару Віленшчыны, далёка ад гарадскіх цэнтраў. Гэта глухамань падкрэслівае характар руху і адначасова паказвае яго сілу. Характэрная і біяграфічная даведка галоўнага героя, Максіма Шамрая. Гэта малады сялянскі хлопец. У 20-тым годзе ўступае ён добраахвотнікам у Чырвоную Армію і ўдзельнічае ў паходзе на Варшаву. За гэта адседжвае потым у канцлагеры Шчыпёрна. Затым служыць у войску. Там сустракае беларускіх камуністаў і пераймаецца іх справамі. Вяртаецца ў родную вёску з «палітычным хвастом», які закрывае яму дарогу. Тут і пачынаюцца разгортвацца падзеі рамана. Максім — лішні ў беднай бацькавай гаспадарцы — ідзе ў лесарубы. Здзеклівая праца. Бунт. Забастоўка. Арышт. Бадзянне ў пошуках кавалка хлеба па панскіх маёнтках. Усё большае адчуванне крыўды і ўсё большая прагнасць змагання за правы пакрыўджанага народа. Урэшце становіцца Максім упаўнаважаным Грамады на сваю акругу. Упартая арганізатарская дзейнасць. Кожны дзень пагражае арышт. Пастаянныя ўцёкі ад «апекі» паліцыі і яе шпікаў. Легальная дзейнасць, якая не лягчэй за падполле. І ўрэшце гарыць пад нагамі родная зямля. Ён не можа тут заставацца і яго выклікаюць у Вільню на працу інструктарам ЦК Грамады.

Так заканчваецца першая кніга рамана. Кніга аб жыцці і барацьбе заходнебеларускай вёскі, кніга аб росце нацыянальнай свядомасці беларускіх сялян, кніга аб легендарнай Грамадзе. Напісана яна сардэчна. Гэта сплачаны доўг перад сябрамі - грамадаўцамі і найлепшы падарунак новым пакаленням, прынесены на 40-вую гадавіну Грамады. Пажадаем аўтару плённай працы над другой кнігай.

Юва

---

А. Баршчэўскі і В. Швед

# Дружба і праца

### ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VIII КЛАСА

### ШАПЭН

Каго ў Лазенках паўночнай парой,
У змрочных алеях, глухіх пералесках,
Каля апусцелых муроў каралеўскіх,
Нястомна шукае нямецкі канвой?

Мо' цень бегляца з-за дратоў Асвянціма
Уцякла ад смяротнай пагоні сюды?
Мо' знойдзены мсціўцаў народных сляды?
Не, каты прайшлі, не заўважыўшы, міма.

Ім трэба быў той, чые гукі жылі
У дыханні мільёнаў, няскораных сэрцах,
Хто на акрываўленай польскай зямлі
Народу свайму гаварыў аб бяссмерці.

І вось акружылі Шапэна яны,
Прыкладамі ўдарылі ў бронзавы помнік,
І з арфы разбітай, з парванай струны
Маланкамі гукі рванулися ў поўнач.

Іх не заглушыў прагрымеўшы узрыў,
Што ўзняў аж да зораў граніт п'едэстала, —
Акорд за акордам зрываўся і плыў,
І сіла цудоўная ў іх нарастала.

І сёння ў Лазенках, над кронамі дрэў,
Над новай свабоднай Варшавай, над краем,
Над светам, дзе бой за свабоду грымеў,
Жалобнага маршу акорды лунаюць.

1945 г. МАКСІМ ТАНК

1. Чаму немцы знішчылі помнік Шапэну і іншыя помнікі польскай культуры?
2. Якія народы і якія гарады найбольш пацярпелі ад нямецкіх злачынстваў?
3. Што ведаеш аб злачынствах гітлераўцаў у тваёй ваколіцы?

### У ВАРШАВЕ

На вуліцах, плошчах тваіх шматгалосых,
Што слаўны і працаю і ў барацьбе,
Пабыць мне з сябрамі ізноў давялося...
Дзень добры, Варшава! Вітанне табе!

Хадзіў і хадзіў бы, здаецца, бясконца,
Па новых кварталах, па скверах густых,
Дзе многа палацаў, асветленых сонцам,
І безліч усмешак на тварах людскіх.

Цябе ж і такой я прыгадваю часта,
Калі пачынала ты раны гаіць,
Я быў на руінах тваіго Стара Мяста
І болю дагэтуль ніяк не пазбыць!

Так, шмат перажыта часамі цяжкімі,
З нас кожны пазнаўся з пакутай сваёй —
На сумных, журботных палях Асвянціма
Рассыпаны попел і маці маёй.

Варшава, свой боль перажыўшы глыбока,
Да сонца і шчасця раскрыла ты сцяг.
Ты здужала гора. Гляджу я навокал, —
Бязмерная веліч і прага жыцця!

Гляджу, на вачах узлятаеш, здаецца,
Расцеш, як у казцы, яшчэ і яшчэ...
І Вісла, як песня праз польскае сэрца,
Удалеч стагоддзяў няспынна цячэ.

Ласкавыя хвалі з табою ў размовах,
Дзе ж лепшую песню, Варшава, знайсці?
Прымі ж ты сяброўскае, шчырае слова:
— Высока ўздымайся, красуй і цвіці!

Сябрам — варшавянам я шчасця таксама
Жадаю, як можа жадаць чалавек —
Мы з вамі суседзі не толькі палямі,
А братняю дружбай з'яднаны навек!

1955 г. ПЯТРУСЬ БРОЎКА

1. Перадай сваімі словамі змест верша.
2. Што ведаеш аб знішчэннях Варшавы і Мінска і аб іх адбудове?
3. Чаму мір неабходны як польскаму так і беларускаму народу?
4. Чаму сучасная польска-беларуская граніца з'яўляецца граніцай дружбы?



# КАЛЯНДАР „НІВЫ” НА 1967 ГОД



## I. СТУДЗЕНЬ

| Стыль | | Дні | Праваслаўны |
|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | |
| 1 | 19 | Н | **Цімафея** |
| 2 | 20 | П | Ігната |
| 3 | 21 | А | Вулляны, Пятра |
| 4 | 22 | С | Анастассі |
| 5 | 23 | Ч | Паўла |
| 6 | 24 | П | Куцця |
| 7 | 25 | С | **Нарадж. Хр.** |
| 8 | 26 | Н | **Другі дз. кал.** |
| 9 | 27 | П | Сцяпана |
| 10 | 28 | А | Агаты |
| 11 | 29 | С | Марка |
| 12 | 30 | Ч | Хвядоры |
| 13 | 31 | П | Меланні |
| 14 | 1 | С | **Новы год** |
| 15 | 2 | Н | **Серафіма** |
| 16 | 3 | П | Малахіі |
| 17 | 4 | А | Саб. 70 ап. |
| 18 | 5 | С | Апалінара |
| 19 | 6 | Ч | Вадохрышча |
| 20 | 7 | П | Апанаса |
| 21 | 8 | С | Юрыя |
| 22 | 9 | Н | **Піліпа** |
| 23 | 10 | П | Рыгора |
| 24 | 11 | А | Міхала |
| 25 | 12 | С | Тацяны |
| 26 | 13 | Ч | Якава |
| 27 | 14 | П | Ніны |
| 28 | 15 | С | Паўла |
| 29 | 16 | Н | **Леанілы** |
| 30 | 17 | П | Антона |
| 31 | 18 | А | Максіма |

## II. ЛЮТЫ

| Стыль | | Дні | Праваслаўны |
|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | |
| 1 | 19 | С | Макара |
| 2 | 20 | Ч | Яфіма |
| 3 | 21 | П | Максіма |
| 4 | 22 | С | Цімафея |
| 5 | 23 | Н | **Клімента** |
| 6 | 24 | П | Ксені |
| 7 | 25 | А | Рыгора |
| 8 | 26 | С | Язэпа, Марыі |
| 9 | 27 | Ч | Дзмітрыя |
| 10 | 28 | П | Яфрэма |
| 11 | 29 | С | Рамана, Якава |
| 12 | 30 | Н | **Трох свяціцелей** |
| 13 | 31 | П | Мікіты |
| 14 | 1 | А | Трыфана |
| 15 | 2 | С | Срэцянне Гасп. |
| 16 | 3 | Ч | Сямёна, Ганны |
| 17 | 4 | П | Кірыла |
| 18 | 5 | С | Агаты |
| 19 | 6 | Н | **Хрысціны** |
| 20 | 7 | П | Лукі |
| 21 | 8 | А | Хведара |
| 22 | 9 | С | Нікіфара |
| 23 | 10 | Ч | Валянціны |
| 24 | 11 | П | Уласа |
| 25 | 12 | С | Аляксея |
| 26 | 13 | Н | **Зоі, Святланы** |
| 27 | 14 | П | Кірыла |
| 28 | 15 | А | Ефрасінні |

## III. САКАВІК

| Стыль | | Дні | Праваслаўны |
|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | |
| 1 | 16 | С | Рамана |
| 2 | 17 | Ч | Льва |
| 3 | 18 | П | Архіпа |
| 4 | 19 | С | Агафона |
| 5 | 20 | Н | **Цімафея** |
| 6 | 21 | П | Яўгенні |
| 7 | 22 | А | Палікарпа |
| 8 | 23 | С | Дзень жанчын |
| 9 | 24 | Ч | Тараса |
| 10 | 25 | П | Парфіра |
| 11 | 26 | С | Пракопа |
| 12 | 27 | Н | **Ціта** |
| 13 | 28 | П | Васіля |
| 14 | 1 | А | Еўдакіі |
| 15 | 2 | С | Фядота |
| 16 | 3 | Ч | Яўтропія |
| 17 | 4 | П | Герасіма |
| 18 | 5 | С | Конана |
| 19 | 6 | Н | **Аркадзя** |
| 20 | 7 | П | Яўгена |
| 21 | 8 | А | Феафілата |
| 22 | 9 | С | 40 мучэн. |
| 23 | 10 | Ч | Міхала |
| 24 | 11 | П | Сафрона |
| 25 | 12 | С | Феафана |
| 26 | 13 | Н | **Нікіфара** |
| 27 | 14 | П | Бенадыкта |
| 28 | 15 | А | Аляксандра |
| 29 | 16 | С | Юльяна |
| 30 | 17 | Ч | Аляксея |
| 31 | 18 | П | Аляксандры |

## IV. КРАСАВІК

| Стыль | | Дні | Праваслаўны |
|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | |
| 1 | 19 | С | Дарыі |
| 2 | 20 | Н | **Святланы** |
| 3 | 21 | П | Якава |
| 4 | 22 | А | Васіля |
| 5 | 23 | С | Нікана |
| 6 | 24 | Ч | Захара |
| 7 | 25 | П | Благавешчанне |
| 8 | 26 | С | Ірынея |
| 9 | 27 | Н | **Матроны** |
| 10 | 28 | П | Сцяпана |
| 11 | 29 | А | Марка |
| 12 | 30 | С | Івана Л. |
| 13 | 31 | Ч | Веніяміна |
| 14 | 1 | П | Марыі |
| 15 | 2 | С | Трафіма |
| 16 | 3 | Н | **Мікіты** |
| 17 | 4 | П | Язэпа, Юрыя |
| 18 | 5 | А | Хвядоры |
| 19 | 6 | С | Платаніды |
| 20 | 7 | Ч | Марціна |
| 21 | 8 | П | Радзівона |
| 22 | 9 | С | Вадзіма |
| 23 | 10 | Н | **Георгія** |
| 24 | 11 | П | Анціпа |
| 25 | 12 | А | Васіля, Мілы |
| 26 | 13 | С | Артамона |
| 27 | 14 | Ч | Антона |
| 28 | 15 | П | Трафіма |
| 29 | 16 | С | Ірыны |
| 30 | 17 | Н | **Вялікдзень** |

## V. МАЙ

| Стыль | | Дні | Праваслаўны |
|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | |
| 1 | 18 | П | **Свята працы** |
| 2 | 19 | А | Хрыстафора |
| 3 | 20 | С | Анастассі |
| 4 | 21 | Ч | Фёдара |
| 5 | 22 | П | Лукі |
| 6 | 23 | С | Георгія Паб. |
| 7 | 24 | Н | **Савы** |
| 8 | 25 | П | Марка |
| 9 | 26 | А | Дз. Перамогі |
| 10 | 27 | С | Сымона |
| 11 | 28 | Ч | Віталія |
| 12 | 29 | П | Мемнона |
| 13 | 30 | С | Якава |
| 14 | 1 | П | **Тамары** |
| 15 | 2 | П | Барыса, Зоі |
| 16 | 3 | А | Цімафея |
| 17 | 4 | С | Пелагеі |
| 18 | 5 | Ч | Ірыны |
| 19 | 6 | П | Іова |
| 20 | 7 | С | Акакія |
| 21 | 8 | Н | **Яна Багасл.** |
| 22 | 9 | П | Мікалая |
| 23 | 10 | А | Сымона |
| 24 | 11 | С | Мяфодзія і Кірыла |
| 25 | 12 | Ч | Германа |
| 26 | 13 | П | Глікерыі |
| 27 | 14 | С | Ісідара |
| 28 | 15 | Н | **Дзмітрыя** |
| 29 | 16 | П | Хведара |
| 30 | 17 | А | Ефрасінні |
| 31 | 18 | С | Клаўдзіі |

## VI. ЧЭРВЕНЬ

| Стыль | | Дні | Праваслаўны |
|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | |
| 1 | 19 | Ч | Карніла |
| 2 | 20 | П | Аляксея |
| 3 | 21 | С | Алёны |
| 4 | 22 | Н | **Васілісы** |
| 5 | 23 | П | Ігара |
| 6 | 24 | А | Сцяпана |
| 7 | 25 | С | Ізана |
| 8 | 26 | Ч | Узнясенне |
| 9 | 27 | П | Хвядоры, Ніла |
| 10 | 28 | С | Мікіты |
| 11 | 29 | Н | **Аляксандра** |
| 12 | 30 | П | Васіля |
| 13 | 31 | А | Ярамея |
| 14 | 1 | С | Дыяніза |
| 15 | 2 | Ч | Нікіфара |
| 16 | 3 | П | Лук'яна |
| 17 | 4 | С | Марфы |
| 18 | 5 | Н | **Сёмуха** |
| 19 | 6 | П | Тэклі |
| 20 | 7 | А | Валерыі |
| 21 | 8 | С | Яфрэма |
| 22 | 9 | Ч | Тэклі |
| 23 | 10 | П | Антаніны |
| 24 | 11 | С | Варфаламея |
| 25 | 12 | Н | **Ануфрыя** |
| 26 | 13 | П | Акуліны |
| 27 | 14 | А | Ялісея |
| 28 | 15 | С | Міхала |
| 29 | 16 | Ч | Ціхана |
| 30 | 17 | П | Мануіла |

## VII. ЛІПЕНЬ

| Стыль | | Дні | Праваслаўны |
|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | |
| 1 | 18 | С | Лявона |
| 2 | 19 | Н | **Засіма** |
| 3 | 20 | П | Мяфода |
| 4 | 21 | А | Цярэнція |
| 5 | 22 | С | Зінаіды |
| 6 | 23 | Ч | Язэпа |
| 7 | 24 | П | Іоана Прэдц. |
| 8 | 25 | С | Ермалая |
| 9 | 26 | Н | **Дзяніса** |
| 10 | 27 | П | Інесы |
| 11 | 28 | А | Івана |
| 12 | 29 | С | Пятра і Паўла |
| 13 | 30 | Ч | Сабор 12 Ап. |
| 14 | 1 | П | Дзям'яна |
| 15 | 2 | С | Уліты |
| 16 | 3 | Н | **Анатоля** |
| 17 | 4 | П | Андрэя |
| 18 | 5 | А | Апанаса |
| 19 | 6 | С | Сяргея |
| 20 | 7 | Ч | Фамы |
| 21 | 8 | П | Пракопа |
| 22 | 9 | С | **Св. Адрадж.** |
| 23 | 10 | Н | **Антона** |
| 24 | 11 | П | Вольгі |
| 25 | 12 | А | Гаўрылы |
| 26 | 13 | С | Сцяпана |
| 27 | 14 | Ч | Анісіма |
| 28 | 15 | П | Уладзіміра |
| 29 | 16 | С | Валянціны |
| 30 | 17 | Н | **Марыны** |
| 31 | 18 | П | Амяльяна |

## VIII. ЖНІВЕНЬ

| Стыль | | Дні | Праваслаўны |
|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | |
| 1 | 19 | А | Макрыны |
| 2 | 20 | С | Ільі |
| 3 | 21 | Ч | Сямёна |
| 4 | 22 | П | Марыі Магд. |
| 5 | 23 | С | Трафіма |
| 6 | 24 | Н | **Барыса і Глеба** |
| 7 | 25 | П | Анны |
| 8 | 26 | А | Параскі |
| 9 | 27 | С | Панцеляймона |
| 10 | 28 | Ч | Прохара |
| 11 | 29 | П | Каленіка |
| 12 | 30 | С | Валянціны |
| 13 | 31 | Н | **Еўдакіма** |
| 14 | 1 | П | Макара |
| 15 | 2 | А | Васіля |
| 16 | 3 | С | Саламеі |
| 17 | 4 | Ч | Еўдакіі |
| 18 | 5 | П | Ноны |
| 19 | 6 | С | Спаса |
| 20 | 7 | Н | **Пімена** |
| 21 | 8 | П | Мірона |
| 22 | 9 | А | Мацвея |
| 23 | 10 | С | Рамана |
| 24 | 11 | Ч | Раісы |
| 25 | 12 | П | Фацея |
| 26 | 13 | С | Ціхана |
| 27 | 14 | Н | **Міхея** |
| 28 | 15 | П | Усп. Пр. Баг. |
| 29 | 16 | А | Якіма |
| 30 | 17 | С | Леўкі |
| 31 | 18 | Ч | Іларыёна |

## IX. ВЕРАСЕНЬ

| Стыль | | Дні | Праваслаўны |
|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | |
| 1 | 19 | П | Андрэя |
| 2 | 20 | С | Самуіла |
| 3 | 21 | Н | **Фадзея** |
| 4 | 22 | П | Апанаса |
| 5 | 23 | А | Ірынея |
| 6 | 24 | С | Арсеня |
| 7 | 25 | Ч | Ціта |
| 8 | 26 | П | Наталі |
| 9 | 27 | С | Пімена |
| 10 | 28 | Н | **Іова** |
| 11 | 29 | П | Усекн. Гл. І. Пр. |
| 12 | 30 | А | Алякс. Неўск. |
| 13 | 31 | С | Хведара |
| 14 | 1 | Ч | Сямёна |
| 15 | 2 | П | Маманта |
| 16 | 3 | С | Якіма |
| 17 | 4 | Н | **Майсея** |
| 18 | 5 | П | Елізаветы |
| 19 | 6 | А | Макара |
| 20 | 7 | С | Лукі |
| 21 | 8 | Ч | Нар. Пр. Баг. |
| 22 | 9 | П | Ганны |
| 23 | 10 | С | Пятра |
| 24 | 11 | Н | **Сяргея** |
| 25 | 12 | П | Юльяна |
| 26 | 13 | А | Валерыяна |
| 27 | 14 | С | Узн. Кр. Гасп. |
| 28 | 15 | Ч | Максіма |
| 29 | 16 | П | Людмілы |
| 30 | 17 | С | Веры, Надз Л. |

## X. КАСТРЫЧНІК

| Стыль | | Дні | Праваслаўны |
|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | |
| 1 | 18 | Н | **Софіі** |
| 2 | 19 | П | Трафіма |
| 3 | 20 | А | Яўстрафія |
| 4 | 21 | С | Кандрата |
| 5 | 22 | Ч | Іоны |
| 6 | 23 | П | Іоана Хр. |
| 7 | 24 | С | Тэклі |
| 8 | 25 | Н | **Сяргея** |
| 9 | 26 | П | Івана |
| 10 | 27 | А | Марка |
| 11 | 28 | С | Нікана |
| 12 | 29 | Ч | Кірыяча |
| 13 | 30 | П | Рыгора |
| 14 | 1 | С | Пакр. Пр. Баг. |
| 15 | 2 | Н | **Кастуся** |
| 16 | 3 | П | Дзяніса |
| 17 | 4 | А | Пятра |
| 18 | 5 | С | Аляксея |
| 19 | 6 | Ч | Фамы |
| 20 | 7 | П | Пелагеі |
| 21 | 8 | С | Таісы |
| 22 | 9 | Н | **Якава** |
| 23 | 10 | П | Тэафіла |
| 24 | 11 | А | Піліпа |
| 25 | 12 | С | Карпа |
| 26 | 13 | Ч | Марціна |
| 27 | 14 | П | Назара |
| 28 | 15 | С | Лук'яна |
| 29 | 16 | Н | **Лангіна** |
| 30 | 17 | П | Лявона |
| 31 | 18 | А | Лукі |

## XI. ЛІСТАПАД

| Стыль | | Дні | Праваслаўны |
|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | |
| 1 | 19 | С | Клеапатры |
| 2 | 20 | Ч | Арцёма |
| 3 | 21 | П | Іларыёна |
| 4 | 22 | С | Аверкія |
| 5 | 23 | Н | **Якава** |
| 6 | 24 | П | Апанаса |
| 7 | 25 | А | Гад. В. Кастр. |
| 8 | 26 | С | Дзмітрыя |
| 9 | 27 | Ч | Нестара |
| 10 | 28 | П | Іова |
| 11 | 29 | С | Анастассі |
| 12 | 30 | Н | **Зіновія** |
| 13 | 31 | П | Спірыдона |
| 14 | 1 | А | Дзям'яна |
| 15 | 2 | С | Акіндзіна |
| 16 | 3 | Ч | Язэпа |
| 17 | 4 | П | Ніканора |
| 18 | 5 | С | Галакціёна |
| 19 | 6 | Н | **Паўла** |
| 20 | 7 | П | Фядота |
| 21 | 8 | А | Міхала |
| 22 | 9 | С | Парфіра |
| 23 | 10 | Ч | Радзівона |
| 24 | 11 | П | Віктара |
| 25 | 12 | С | Ніла |
| 26 | 13 | Н | **Іона** |
| 27 | 14 | П | Піліпа |
| 28 | 15 | А | Гурыя |
| 29 | 16 | С | Мацвея |
| 30 | 17 | Ч | Рыгора |

## XII. СНЕЖАНЬ

| Стыль | | Дні | Праваслаўны |
|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | |
| 1 | 18 | П | Платона |
| 2 | 19 | С | Аўдзея |
| 3 | 20 | Н | **Рыгора** |
| 4 | 21 | П | Марыі |
| 5 | 22 | А | Філімона |
| 6 | 23 | С | Хведара |
| 7 | 24 | Ч | Кацярыны |
| 8 | 25 | П | Клімента |
| 9 | 26 | С | Аліпія |
| 10 | 27 | Н | **Якава** |
| 11 | 28 | П | Сцяпана |
| 12 | 29 | А | Парамона |
| 13 | 30 | С | Андрэя |
| 14 | 1 | Ч | Наума |
| 15 | 2 | П | Авакума |
| 16 | 3 | С | Сафона |
| 17 | 4 | Н | **Варвары** |
| 18 | 5 | П | Савы |
| 19 | 6 | А | Мікалая Цуд. |
| 20 | 7 | С | Амбражэя |
| 21 | 8 | Ч | Патапа |
| 22 | 9 | П | Ганны |
| 23 | 10 | С | Мілы |
| 24 | 11 | Н | **Ланілы** |
| 25 | 12 | П | Спірыдона |
| 26 | 13 | А | Яўгенія |
| 27 | 14 | С | Апалона |
| 28 | 15 | Ч | Анфісы |
| 29 | 16 | П | Агея |
| 30 | 17 | С | Данілы |
| 31 | 18 | Н | **Зоі** |

# ТРЫБУНА чытачоў

## КУРСЫ ДЛЯ ГАСПАДАРОЎ

У лістападзе г.г. пачаліся курсы для гаспадароў вёсак Пасынкі, Локніца, Трашчотак і Катлоў, Бельскага павета (кончацца заняткі 27 снежня). У праграме пятнаццаці заняткаў прадбачаны абшырны матэрыял з галіны сельскагаспадарчых ведаў. Выкладчыкі распрацоўваюць праблемы звязаныя з рацыянальным угнаеннем зямлі, сенажацяў, паш, іх догляд і іх выкарыстанне. Як вясці агарод, як вырошчваць агародніну, сад? На гэтыя тэмы цікава вядзе заняткі Д. Нікіцюк. Аб гадоўлі жывёлы вядуць заняткі лекары і працаўнікі ветэрынарнай службы ў Бельску Радзіслаў Дзюнюк і М. Альшанскі. Выкладчыкі на вечаровых курсах праводзяць шырока прафілактычную работу, прысвячаюць многа часу на непасрэдныя гутаркі з курсантамі, даюць адказы на запытанні. Кадра выкладчыкаў на даволі высокім узроўні. Павятовы аддзел сельскагаспадарчых гурткоў накіроўвае сваіх працаўнікоў з добрай фаховай падрыхтоўкай, якія цэняць сваіх слухачоў і з імі хочуць шчыра падзяліцца сваімі ведамі і вопытам. Курсанты бачаць курсы як нешта вельмі карыснае для іх будучай працы на гаспадарцы. Кожны аўторак і пятніцу цікаўныя гаспадары выпаўняюць школьныя залы (у Трашчотках у хатах жыхароў). На жаль, не ўсе гаспадары прыходзяць. Горш яшчэ з тым, што сярод неахвотных, якія не прыходзяць на курсы, ёсць маладыя гаспадары, якія ўзялі на сябе абавязак гадаваць сем'і і пракладаць першыя сцежкі ў так важным і так клапатлівым кіраванні ўласнай гаспадаркай. У кожнай вёсцы ёсць іх па некалькі. Для прыкладу ў Трашчотках: Федзя Антанюк, Іван Дэмянюк, Грыша Галёнка; у Катлах: Сяргей Федарук, Рыгор Шумскі, Якуб Місевіч; у Пасынках: Аляксандр Манаховіч — прэзас сельгасгуртка, Яўгень Весялоўскі, Валодзя Весялоўскі і Мікалай Манаховіч; у Локніцы: Рыгор Паўлючук і другія не паказаліся ані разу на курсе. Не відаць і жанчын. А ёсць ім чаго паслухаць. Бо хто ж корміць свінні, куры, доіць свае кароўкі? На некаторых курсах не відаць солтысаў, перадавікоў аховы раслін, членаў партыі.

Беларуская пагаворка гаворыць «Які пастух, такое стада». Тут наадварот — пастух не варты стада. У час доўгіх зімовых вечароў адны патрацяць час на пустыя гутаркі, другія ўзбагацяцца ведамі да складанай прафесіі гаспадара-селяніна. Напэўна ў многіх курсантаў гэтыя заняткі разбудзяць цікаўнасць да гаспадаравання, разбудзяць уласную дапытлівасць, жаданне пашырэння агратэхнічных і заатэхнічных ведаў. Для іх запачаткаваныя курсы ў гэтым годзе будуць прадаўжацца ў наступных гадах.

«К. С.»
Катлы



**СЦЯПАН ЖУЖАЛЬ**

Ураджэнец вёскі Міклашы, Сцяпан Жужаль, пасля заканчэння педагагічнага ліцэя ў Бельску стаў працаваць на Бельшчыне настаўнікам, пачаткова ў Цялушках, пасля ў Малочках. Зараз з'яўляецца кіраўніком школы ў Катлах. Працуе тут ужо 7-мы год. Навучае дзяцей, між іншым, і беларускай мовы, прывівае да яе ў сваім асяроддзі любоў і пашану.
Сцяпан Жужаль пазнаў тут добра людзей, проста ўрос у гэтае асяроддзе. Тут ён ажаніўся з мясцовай настаўніцай. Тут ён выконвае шмат грамадскіх функцый. З'яўляецца ён радным і ўзначальвае камісію культуры і асветы ў ГРН у Пасынках.
У настаўніцкай прафсаюзнай арганізацыі Сцяпан Жужаль з'яўляецца намеснікам старшыні «Агніска» і кіраўніком адукацыі «Агніска».
Многа год у мясцовых партыйных арганізацыях быў і далей з'яўляецца выкладчыкам партыйнай адукацыі.
Смела можна сказаць, што гэта мясцовы дзеяч, мясцовы выхавацель свайго асяроддзя і апрача таго таленавіты карэспандэнт «Нівы», які паказвае добрыя бакі і хібы тых ці іншых арганізацый, тых ці іншых пачынанняў.
Сцяпан Жужаль як адзін з найлепшых нашых карэспандэнтаў быў запрошаны нядаўна на пленум ГП БГКТ, дзе ацэньвалася «Ніва». На гэтым пасяджэнні ад імя рэдакцыі была яму ўручана рэчавая ўзнагарода. (мх)

## ПАЎЛАЎСКІЯ ГАРЦЭРЫ

Гарцэрскай арганізацыяй у Паўлах апякуецца настаўніца Раіса Снарская. Яна арганізуе вечарынкі ў школе, вучыць спяваць, вучыць правіл штодзённага сужыцця і паводзін. У памятныя даты паўлаўскія гарцэры трымаюць ганаровыя варты ля помніка, (які непадалёк вёскі) партызан загінуўшых у час акупацыі. На працу з гарцэрамі Р. Снарская многа прысвячае часу. Яна намагаецца выхоўваць школьнікаў на добрых людзей краіны.

П. Я.
Паўлы

## У СПРАВЕ КОНЕЙ

У № 41 (554) «Нівы» быў апублікаваны матэрыял пад загалоўкам «Замест змяншэння, прырост». Апісвалася ў ім аб узросце коней. Як прычыну падавалася тое, што гаспадары таму пачалі гадаваць больш коней, што высылаюцца яны на экспарт і прыносяць гаспадарам вялікія даходы.
Я хачу сказаць яшчэ аб адной прычыне павелічэння колькасці коней. З'яўляецца ёю тое, што вельмі часта здараецца так, што малазямельныя гаспадары купляюць коні. У нас у Гарадку большасць гаспадароў мала- і сярэднезямельных. Усе яны трымаюць коней. Я скажу пра сябе. Маю 1,5 га зямлі і значна больш сенажаці. Думаў я раней гадаваць больш кароў і таму насіўся з думкай пабудовы кароўніка. Але планы мае цяпер перамяніліся. Зараз за гэтыя грошы думаю купіць каня і воза. А прычына гэтага наступная.
Свайго часу звярнуўся я да прэзаса сельскагаспадарчага гуртка ў Гарадку, каб заараць трактарам палетак, на які я вывез 10 гумовых вазоў гною. Было яго больш-менш каля 0,60 га. Чакаць прыйшлося 7 дзён. Прасіў я таксама, каб трактарам заараць кусок дзікага балота, якога было каля 30 сотак. І ўрэшце мне трактарыст Яўгень Хомчык заараў. Налічыў ён 7,40 гадзін працы. Калі я запытаў прэзаса, колькі трэба часу, каб заараць поле трактарам, ён адказаў, што ў найгоршых умовах не зойме больш, чым 6 гадзін працы. А калі я сказаў, што за мае два кусочкі палічана працы 7,40 гадзіны, дык тады дабавіў прэзас, што неабходна пільнаваць трактарыста.
Вось тады я падумаў, што я не змагу дапільнаваць трактарыстаў і таму вырашыў купіць каня і воза.

**Мікалай Бараноўскі**
Гарадок

## ШКЛЯНКА МАЛАКА

Трасцяніцкая школа далучылася да акцыі, якую арганізавала рэдакцыя «Наша весь» пад загалоўкам «Шклянка гарачага малака для кожнага школьніка». Дзякуючы кіраўніку школы Івану Тапалянскаму і пры дапамозе ўсіх настаўнікаў, кожнае дзіцё можа штодзённа атрымаць у школе шклянку гарачага малака. На месяц бацькі плацяць толькі 8 зл. Рэшту даплачваюць асветныя ўлады. Цікава толькі, чаму некаторыя бацькі гэтага не дацэньваюць. Гэта ж разыходзіцца пра здароўе нашых дзяцей. А ці не залежыць на гэтым бацькам? Вядома, што некаторыя дзеці ходзяць да школы з адлеглых вёсак, якія знаходзяцца ад Трасцянкі 4 і больш кіламетраў.

**Л. М.**
Белкі

## ПРАПАЛІ СКЛАДЧЫНЫ

Каля вёскі Скупава, як і іншых вёсак, якія ляжаць каля шашы, ёсць прыпынак ПКС-у. У пагоду нават і добра стаяць пад голым небам, чакаць на аўтобус. Але ў снежную завею ці дождж людзі клянуць, наракаюць і самі не ведаюць, на каго. Некалькі год таму назад былі сабраныя грошы па 10 зл ад гаспадара на пабудаванне якой-небудзь будкі. Да гэтага часу нічога не зроблена. Адны другіх пытаюць, дзе тыя грошы? Што з імі сталася? Чаму перасталі гаварыць аб пабудове пачакальні?

**Крапіўка**
з-пад Нараўкі

## ЧАМУ НЕ ДА ПАЧАПКА?

Надлясніцтва Крынкі (сядзіба ў Пачапку) мае вялікія цяжкасці са здабыццём рабочых да вырубкі лесу. А гэта таму, што нізкая «стрэфа» платы і што дадатковыя клопаты з галлём для работнікаў. Галлё там трэба складаць у кучкі, а гэта забірае многа часу. Вось таму сезонныя лясныя рабочыя з Паўночнага Вострава, Паўднёвага Вострава, Астраўка і іншых вёсак едуць за 20 км аўтобусам ПКС-у да лясніцтва ў Сакалдзе (надлясніцтва Супрасль). Тут вышэйшая «стрэфа» аплаты, звяртаюць кошты падарожжа, атрымоўваюць камандзіровачнае і дазваляюць браць галлё з вырубу не складаючы яго ў кучы.
Гэта вельмі выразна паказвае, што залатоўка з'яўляецца найлепшым агітатарам і штуршком да працы. Людзі не ідуць працаваць за два-тры кіламетры, а едуць за дваццаць кіламетраў.

**А. С.**
Сакольскі павет




Дарагое Сэрцайка!

Чытаючы твае парады, я падумала, мо і мне зможаш даць адказ. Мне 18 год. Пазнаёмілася я з хлопцам з суседняй вёскі. Ён вельмі мне спадабаўся. Мы сустракаліся часта. Мае бацькі мне ўсё паўтаралі, каб я з гэтым хлопцам не стаяла на панадворку ў такі мароз, а ішла дахаты. Аднак я не згаджалася. Аднаго вечара, калі мы так стаялі, мой бацька сказаў, каб я ішла спаць. Я пайшла ў хату, а хлапец мой дамоў. Пры апошняй сустрэчы ён мне сказаў, што мае бацькі не хочуць, каб ён хадзіў да мяне, і што ён больш ужо не будзе са мной сустракацца. Калі прыходзіцца нам дзе-небудзь сустракацца, ён толькі ўсміхаецца да мяне. Я хацела б ізноў сустракацца, але не ведаю, ці выпадае падыйсці першай і сказаць усю праўду, а мо ён сам вернецца да мяне?

Зіна з Бельшчыны

Дарагая Зіна!

Бацькі твае мелі рацыю. На марозе стаяць з хлопцам — гэта не толькі некарысна (можна прастудзіцца і захварэць) але і непрыгожа. Гэта твой хлапец павінен зразумець без тваіх вытлумачэнняў. Тым больш, што бацькі твае казалі табе запрашаць яго ў хату, каб толькі вы не стаялі на панадворку. Брыдка з твайго боку, што ты не паслухала. Але на маю думку, ты не павінна падыходзіць і перапрашаць свайго хлопца, не вядома за што. Калі яму залежыць на вашым сяброўстве, — вернецца. А калі не вернецца, дык лепш, што гэта сталася раней, чым пазней. Менш будзеш думаць і хутчэй аб ім забудзеш. А пакуль што, пачакай.

Сэрцайка



## КІНО

на 3—8.І.1967 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Zwyczajny faszyzm" (radz.), 3—4. „Ostatni świadek" (NRF), 5—6. „Strzelby Apaczów" (USA), 7—8.

**Кляшчэлі**
„Gangster i urzędnik" (USA), 3—4. „Normandia-Niemen" (radziecki), 5—6. „Wierność" (radziecki), 7—8.

**Дубіны**
„Najdroższa" (radz.), „Operacja Y" (radz.), 7—8.

**Нарва**
„Obok prawdy" (polski), „Podróż nie z tej ziemi" (jugosł.), 4—8.

**Нараўка**
„Pan Marszałek i ja" (NRF), „Rodzaj miłości" (angl.), 4—8.

**Чыжы**
„Karambol" (węgierski), „Romans z nieznajomym" (USA), 4—8.

**Дубічы Царкоўныя**
„Dworek 4-ech dziewcząt" (węgierski), „Kanciarze i spółka akcyjna" (angl.), 4—8.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Pociąg na tyły" (radz.), „Macario" (meksykański), 4—8.

**Орля**
„Dom z facjatą" (radz.), „Grzeszny anioł" (radz.), 4—8.

**Райск**
„Noc poślubna" (jugosł.), „12 mil. Holendrów" (holenderski), 4—8.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Między linami ringu" (USA), „Ubranie prawie nowe" (polski), 5—6.

**Міхалова**
„Odraza" (węgierski), 3 — 4. „Samotna" (radz.), 5—6. „Potem nastąpi cisza" (polski), 7—8.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Spotkanie z Warszawą" (polski), 3—4. „Królowa Krystyna" (USA), 5—6. „Trzy kroki po ziemi" (polski), 7—8.

**Мілейчыцы**
„Gangster i urzędnik" (USA), „Tomasz—oszust" (franc.), 5— 6. „Dzwony dla bosych" (czeski), 7 — 8.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Wehikuł czasu" (USA), 3—4. „Czternaście dni" (jugosł.), 5—6. „Czarny monokl" (franc.), 7—8.

**Шудзялава**
„Olbrzym" (USA), „Fatalny list" (angl.), 4—8.

**Сідра**
„Strachy zamku Spessart" (NRF), 3—4. „Profesor Mamlock" (NRD), 5 — 6. „Zemsta OAS" (franc.), 7—8.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Dwadzieścia godzin" (węgierski), „Spacer po linie" (ang.), 7 — 8.

**Ліпск**
„Mam 20 lat" (radz.), „Kiermasz" (NRF), 7—8.

### ТЭАТР ІМЯ ВЯНГЕРКІ (выязная група)

**Саколка**
„Mój biedny Marik" — 3. I

**Гайнаўка**
„Mój biedny Marik" — 5. I

Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-31-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP ;Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.
Nakład 6.567 Błtk. D-2

# Як я злодзея лавіў

Гэта здарылася са мною якраз перад Новым годам. І хоць у маёй міліцэйскай практыцы было нямала цікавых здарэнняў, гэтую незвычайную гісторыю я ўспамінаю з асаблівым пачуццём.

Мяне, тады яшчэ маладога паручніка міліцыі, знаёмыя дзяўчаты з педагагічнага інстытута, сяброўкі Лены, запрасілі да сябе на навагодні вечар. Служба ў гэты дзень скончылася даволі рана (каля трох гадзін), і я рашыў загадзя падрыхтаваць усё неабходнае. Дзень выдаўся сонечны, ясны. Прыемна было прайсціся па заснежаных вуліцах, палюбавацца незвычайнай прыгажосцю горада.

Па дарозе зайшоў у магазін кветак. І хоць выбару ўжо не было, але прадаўшчыца ўсё ж такі назбірала неблагі букет. Мая Леначка вельмі любіла кветкі. А калі ж, як не пад Новы год, зрабіць ёй прыемнае! У гастраноме я таксама сёе-тое прыхапіў... Адным словам, прыхапіў тое, без чаго ні адна ўрачыстасць не абыходзіцца.

Іду і раптам бачу: кроках у двухстах ад мяне, з пад'езда пяціпавярховага дома, з вялікім пакункам у руках выскачыў нейкі мужчына ў паліто і капелюшы і кінуўся да аўтобуснага прыпынку. Штосьці вельмі падазронае здалося мне ў яго паводзінах. «Ці не злодзей? — падумаў я. — Напэўна, збіраецца замесці сляды. Трэба праверыць». Кідаюся ўслед, але позна: аўтобус адышоў. Разгублены, я азірнуўся вакол: на вочы трапіла «Волга», што стаяла ля ўнівермага. Я — да яе. «Заводзь хутчэй — паехалі!» — крычу шафёру. Завярнулі за вугал, апынуліся на вакзальнай плошчы. Аўтобус яшчэ стаяў, але мой «падапечны» куляй кідаецца да стаянкі таксі. Машына зрываецца з месца. Загадваю свайму шафёру ехаць услед і абавязкова дагнаць. Пачынаецца незвычайнае спаборніцтва на вуліцах і завулках горада. І вось бачу: каля аднаго дома таксі спынілася, чалавек выскачыў і знік у пад'ездзе. Пад'ехалі і мы. Гляджу — шыльда: «Радзільны дом». Значыць «злодзей» — шчаслівы тата! Праз колькі хвілін у праходзе паказаўся... мой таварыш па службе. Твар яго свяціўся радасцю. Ён з замілаваннем глядзеў на жонку, то на дзіця. Я, здзіўлены і таксама крыху расчулены, стукнуўшы абцасамі, па ўсёй форме стаў перад начальнікам.

— Дарагі Валодзя! Віншую цябе з папаўненнем! Жадаю добра сустрэць Новы год! Ад мяне асабіста і ад работнікаў нашага аддзела прымі гэта на памяць — я працягнуў яму кветкі.

Здаецца ўсё атрымалася як найлепш, але Валодзю я ніколі не гаварыў, як я палічыў яго злодзеем. Толькі з Леначкай вечарам мы шчыра і доўга смяяліся з маёй няўдалай пагоні за... сваім калегам па рабоце.

УЛАДЗІМІР ДЗІСКО




— Я, здаецца, перасаліў у справаздачы!

### ДОБРЫ МУЖ

Жонка: — Ах ты п'яніца, гультай! Зноў прыйшоў дамоў раніцою. Скажы, што б ты рабіў, каб я гэтак позна прыходзіла?

Муж: — Нічога, нічога! Сказаў бы: ідзі, маё золатца, спаць.

### КОЛЬКІ ГОД ЖЫВЕ...

Бацька вярнуўся з поўдня, з адпачынку, і прывёз у падарунак маленькай Ірачцы чарапаху.

— Божа мой, колькі год жыву на свеце, — усклікнула яна, — а гэткага дзіва не бачыла.

### А ЁН ПАГУЛЯЕ...

— Мама, ты за мяне зрабі арыфметыку, а я за цябе схаджу пагуляю, — гаварыў сваёй маці першакласнік, з надзеяй гледзячы ў вочы.

### НАДЛІЧЫЎ

Прахожы запытаўся ў сустрэчнага:

— Скажыце, калі ласка, колькі кіламетраў адсюль да горада?

— Дакладна не ведаю, — пачухаў патыліцу дзядзька. — Але ж столькі будзе, як ад горада дагэтуль.

### УСЁ БАЛІЦЬ

Зайшоў аднойчы шавец да доктара і пачаў скардзіцца на свае хваробы.

— А што ў вас баліць? — пытаецца доктар.

— Усё баліць. Вочы быццам клеем намазаны, язык стаў як падэшва, у горле не інакш як цвікі забіты, у жываце быццам дратваю сцягнута, у вушах як хто шылам пора, ды і ўсяго быццам на капыл нацягнулі...

### ЧАМУ

У п'яніцы спыталі:

— Чаму ты столькі сяброў у рэстаран водзіш?

— А каб было каму да дому аднесці, калі сп'янею, — адказаў ён.

### МОЙ РЭЦЭПТ

Лечаць п'яніцу Міколу,  
Кружаць лекары наўкола,  
А ў яго няма папраўы —  
Выгляд сонны — выгляд млявы.  
Есць за трох. Часамі здуру  
Крыва гляне на мікстуру.  
Уздыхне. Хіба ж ён здольны  
Піць настой безалкагольны?  
Дарагія лекары,  
Чорт вас лысы пабяры!  
Свой рэцэпт і свой дыягназ  
Вы закіньце ў бездань-багну,  
Не пускайце абібока  
Без работы ані кроку.  
Хлеба лусту. Збан вады  
І ні грама больш яды.  
Справа пойдзе на папраўу,  
Медыцыне ж будзе слава...

СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ



— Прашу, як у мінулым годзе.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

По просьбе Пеці Яканюка і Пеці Іванюка з вёскі Паўлы, Бельскага павета, змяшчаем песню п. з.

## И ОПЯТЬ ВО ДВОРЕ

*Стихи Л. Ошанина* *музыка А. Островского*

*Ты не грусти, может быть, еще встретимся,*  
*Я от тебя не сбегу никуда.*  
*Сколько в пути ни пробуду я месяцев,*  
*А возвращусь, хоть на вечер, сюда.*

*Припев.*  
*И опять во дворе*  
*Нам пластинка поет*  
*И проститься с тобой*  
*Все никак не дает.*

*Не отнимай свою руку, пожалуйста,*  
*Как бы судьба ни сложилась для нас,*  
*Завтра забудь меня, маме пожалуйся,*  
*А поцелуй на прощанье хоть раз.*

*Припев.*

*В туфлях на гвоздиках, в тоненьком свитере,*  
*Глупая, все тебя мучит одно —*  
*Как бы подружки твои не увидели*  
*Да старики, что стучат в домино.*

*Припев.*

*Губы не прячь и вокруг не поглядывай,*  
*Ты уж как хочешь, а мне по душе*  
*Помнить квартиру сто двадцать девятую,*  
*Твой огонек на шестом этаже.*

*Припев.*



Усё людскае нам не чужое

### ЯШЧЭ АБ АСЦЯРОЖНАСЦІ ПРЫ ВЫБАРЫ КАМПАНІІ

Чокнуліся. Выпілі. Закусілі.




### РЭКОРД ПАБІТЫ

У Нью Порце (ЗША) група гледачоў, якія назіралі за ходам спаборніцтваў па працягласці гульні ў брыдж, засталася незадаволенай дасягнутымі вынікамі. 115 гадзін няспыннай гульні — гэта не мяжа, заявілі яны. Сеўшы тут жа за картачны стол, яны ўстанавілі новы рэкорд — 120 гадзін.

### БІЗНЕС НА ПАКУТАХ

Фармацэўтычная фірма, на чале якой стаіць былы віцэ-прэзідэнт Ілінойскага універсітэта, нядаўна выпусціла цудадзейны апарат, які нібыта вылечвае ад рака. Эфектыўнасць новага прэпарата, як сцвярджалася ў рэкламным праспекце, пацверджана навуковымі доследамі. Рэкламны праспект указваў нават імёны асоб, якія хварэлі на рак і вылечыліся з дапамогай новага прэпарата. І хаця кошт прэпарата складаў 170 тысяч долараў за грам, у пакупнікаў недахопу не было. Хутка аднак упартыя рэпарцёры высветлілі, што асобы, якія ўпамінаюцца ў рэкламным праспекце, як вылечаныя, даўно памерлі. Аналіз прэпарата паказаў, што гэта бяскрыўдны парашок, выраб якога каштуе 30 цэнтаў за грам. Выпуск прэпарата спынен. Сваякі тых, каму не дапамог новы прэпарат, імкнуцца спагнаць грошы праз суд.

### З УСІМІ ВЫГОДАМІ

8 400 долараў каштавала абсталяванне новага дома для васьмі прывілеяваных сабак, якія ахоўвалі галоўную кантору фордаўскай кампаніі ад тых, хто жыве ў менш шыкоўных дамах. Кожны сабака мае асобны пакой, сцены якога аздоблены чырвоным дрэвам, дываны на падлозе, электрычнае асвятленне, кандыцыяванае паветра. Страва дастаўляецца з рэстарана кампаніі. Дзверы кожнага пакоя выходзяць на невялікі агароджаны лужок.




Ён меў адзіную ўласную думку: ніколі не выказваць уласнай думкі.